24 сакавіка 2017 | № 11 (525)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Мова і Еўропа
стар. 8



# Гістарычная наканаванасць незалежнасці

## Ад ідэй БНР нам нікуды не падзецца



Сяргей ПУЛЬША

Чарговы Дзень Волі — 99-я ўгодкі стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі — выклікае ў мяне пачуццё нейкай гістарычнай наканаванасці. Падумаць толькі — у наступным годзе будзе сто гадоў са спробы стварыць беларускую дзяржаву!

У гэтыя дні мы пачуем шмат словаў, што Беларуская Народная Рэспубліка стала падмуркам беларускай дзяржаўнасці. Будуць спрабаваць у чарговы раз «пераасэнсаваць» БНР і казаць пра тое, што насамрэч незалежнасць нам «звалілася нам з неба» ў 1991 годзе, знянацку, на не вельмі падрыхтаваны для гэтага народ.

Але наўрад ці так яно ёсць. Для пачатку гэтай незалежнасці трэба было знайсці месца, куды звальвацца. І гэтае месца ёй рыхтавалі, як зараз прынята казаць, «лепшыя сыны нашай Бацькаўшчыны», пачынаючы нават не з Кастуся Каліноўскага, а значна раней. У шэрагу гэтых «падрыхтоўцаў» — і бацькі-заснавальнікі БНР, і слуцкія паўстанцы, і «беларусізатары» 1920-х гадоў, і шмат іншых слынных асобаў нашай мінуўшчыны.

Прычым нават не ў асобах справа. Справа ў той самай гістарычнай наканаванасці, якая, нягледзячы на ўсе няшчасці і выпрабаванні, усё ж прывяла нас да стварэння незалежнай дзяржавы. Наўрад ці можна патлумачыць, якім чынам з сярэдзіны XVI стагоддзя, пасля фактычнага скону ВКЛ, беларусы захавалі ідэнтычнасць... Амаль 400 гадоў народ спрабавалі паланізаваць, русіфікаваць — і ўсё дарма. У 1918 годзе, як чорцік з каробачкі, выскачыла БНР.

Аматары савецкай гістарыяграфіі, якіх шмат у нашай уладзе, кажуць, што пачатак беларускай дзяржаўнасці — не БНР, а БССР. Маўляў, беларускія нацыяналісты павінны быць удзячныя «клятым камуністам-бальшавікам», якія стварылі БССР, на аскепках якога паўстала незалежная Беларусь.

Насамрэч, усё было інакш. Без БНР наўрад ці б адбылася БССР. Тыя самыя «клятыя бальшавікі» не маглі не ўбачыць БНР, патрабаванне самастойнасці і суверэнітэту беларусаў. Калі б гэтай спробы пабудаваць беларускую дзяржаву не было, наш край выдатна б падзялілі паміж Расіяй, Польшчай і Літвой. Але, пабачыўшы БНР, ужо немажліва было адхрысціцца ад прэтэнзій беларусаў на ўласную дзяржаўнасць — хаця б тэрытарыяльную. Абышліся толькі тым, што адцяпалі ўсё ж у нас Вільню і Смаленск...

Паступова, пакрысе, ад ідэяў да спробаў, ад спробаў да ажыццяўлення — Беларусь атрымала незалежнасць.

Прычым, гэтую гістарычную наканаванасць можна замарудзіць, але не спыніць. Незалежнай Беларусі ўжо 25 гадоў — чвэрць стагоддзя. Дваццаць з іх былі страчаныя ўладай на тое, каб даказаць, што «мы з рускімі — адзін народ», што мы «разам гнілі ў акопах» і гэтак далей. Былі спробы ўсяляк перакрэсліць нашу даўнейшую гісторыю і сапраўды лічыць пачаткам беларускай дзяржаўнасці БССР. І што, няўжо атрымалася?

У выніку мы неяк «закальцаваліся» і прыйшлі да таго, з чаго пачыналі. Пачыналі мы з развагаў і спрэчак на тэлебачанні пра




бел-чырвона-белы сцяг у якасці дзяржаўнага — больш сталае пакаленне выдатна памятае гэтыя дэбаты напачатку 1990-х гадоў. Зараз мы да гэтага вяртаемся, і зноў гучаць на тэлебачанні тыя ж словы — надаць гістарычнаму сцягу афіцыйны статус.

Сённяшні кіраўнік краіны дагэтуль ганарыцца тым, што «не даў пасадзіць рускіх на чамаданы» і надаў рускай мове афіцыйны статус. Але тая беларусізацыя і папулярызацыя беларускай мовы, якая пачыналася ў 1990-х гадоў на дзяржаўным узроўні, зараз ідзе на ўзроўні грамадскім. Грамадства змушае суддзяў, дэпутатаў і іншае чыноўніцтва размаўляць з імі «на мове звароту», і чыноўнікі, як у пачатку 1990-х, вымушаныя вучыць мову.

Мова заваёўвае бізнес, рэклама па-беларуску — больш пазнавальная. Ёсць асобныя прадстаўнікі, якія адмаўляюцца, напрыклад, пісаць па-беларуску інфармацыю пра тавар на яго ўпакоўцы — нядаўна з гэтай нагоды ішлі гарачыя дэбаты. Маўляў, «наша прадукцыя ідзе

> **20 гадоў мы супраціўляліся наканаванаму шляху, а нічога не атрымалася**

на экспарт, таму інфармацыя па-руску ў прыярытэце». Але больш разумныя, наадварот, дадаюць на свой тавар беларускую мову. Разлік просты: мова з'яўляецца дадатковай абаронай супраць падробак прадукцыі і фальсіфікатаў. Хто апынецца ў выйгрышы — прадказаць прасцей простага.

А мяжа? Чаго мы толькі ні рабілі 20 гадоў таму! Нават ганарова знеслі памежны слуп на ўездзе ў Расію. А зараз прымусілі менавіта Расію ўводзіць з намі памежную зону. Прычым, у сувязі з прызнаннем Крамлём пашпартоў ЛНР/ДНР, можна чакаць, што ў нас з'явіцца паўнавартасны памежны, а затым, напэўна, і мытны кантроль з усходняй суседкай...

Карацей, ёсць у мяне стойкае адчуванне, што 20 гадоў мы супраціўляліся вызначанаму, наканаванаму краіне шляху, спрабавалі «саскочыць» з яго ці тое ў мінулае, ці тое ў іншую краіну — а нічога і не атрымалася. Банальна прыйшлі ў тую ж кропку, з якой пачыналі.

Прычым нават у эканоміцы. Памятаеце, на чым выехаў Аляксандр Рыгоравіч у сваёй першай перадвыбарчай кампаніі? На фразе: «Я запушчу заводы». Зараз таго ж самага — запуску заводаў і годных заробкаў — патрабуюць пратэстоўцы на плошчах па ўсёй Беларусі.

Гісторыя паказвае — прыпынялася наша наканаванасць амаль заўсёды знешнім умяшаннем. Зараз таксама існуе пагроза незалежнасці і суверэнітэту. З гэтым трэба нешта рабіць. А ў астатнім — няма чаго плаваць супраць ветру. Ад ідэй БНР нікуды не падзенешся.

# «Правакацыі будуць»

**Заяўнікі Дня Волі дагэтуль не маюць адказу з Мінгарвыканкаму. Невядома, па якім маршруце пойдзе шэсце. У гэты ж час Лукашэнка заяўляе, што «пятая калона» пры падтрымцы заходніх арганізацый рыхтуе «мардабой і кроў».**

Прадстаўнік БХД, адзін з заяўнікаў акцыі 25 сакавіка, Дзяніс Садоўскі лічыць, што ўлады чыняць правакацыю, дэманстратыўна зацягваючы адказ.

«Мы да гэтага часу не маем рашэння Мінгарвыканкаму пра акцыю 25 сакавіка. Улады паводзяць сябе вельмі нахабна. Калі яны так хвалююцца, каб усё адбылося арганізавана і мірна, то трэба выконваць закон і даваць адказ у час», — сказаў Садоўскі.

Ён дадаў, што пужалкі, якія сёння ў вялікай колькасці прагучалі з вуснаў Лукашэнкі, паўтараюцца з года на год.

Арганізатары запэўніваюць, што будуць супрацьстаяць правакацыям, якія, на іх думку, рыхтуюць улады на 25 сакавіка.

«Я ўпэўнены, што і аргкамітэт святкавання 25 сакавіка, і Мікола Статкевіч, які таксама заклікае на акцыю ў гэты дзень, ніякіх радыкальных дзеянняў не плануюць. А вось што плануюць правакатары з "жоўтага будынку" — гэта вялікае пытанне. Таму да правакацый трэба рыхтавацца. Мы будзем рыхтаваць ахову, каб супрацьстаяць правакацыям, бо відавочна, што яны будуць».

**Паводле «Радыё Свабода»**

# За лагер баевікоў выдаюць патрыятычны летнік

**Становяцца вядомыя дэталі справы, што пачала раскручвацца 21 сакавіка пасля заяваў Аляксандра Лукашэнкі пра выкрыццё «лагера баевікоў» недзе ў лясах «паміж Бабруйскам і Асіповічамі».**

Пазней у той самы дзень былі затрыманыя адзін з лідараў былога «Белага легіёна» Міраслаў Лазоўскі, кніганоша Алесь Яўдаха, бабруйскі падарожнік-экстрэмал Андрэй Дундукоў, а таксама яшчэ два былыя «легіёнаўцы» — супрацоўнікі сілавых ведамстваў.

Што спецслужбы маглі выдаць за "лагер баевікоў"? Сапраўды, ужо больш за дзесяць гадоў у Бабруйску дзейнічае вайскова-спартовы клуб «Патрыёт». Ён афіцыйна зарэгістраваны працуе пры Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі Ленінскага раёна Бабруйска. Гэты клуб адметны тым, што апроч фізічнага развіцця падлеткаў, педагогі гутарылі з дзецьмі выключна на беларускай мове, ладзілі пэўныя заняткі па гісторыі краіны. Нічога надзвычайнага — здаровы патрыятызм.

Кожнае лета «Патрыёт» ладзіў перасоўны палатачны лагер «Брыганціна», у якім школьнікі вучыліся выжыванню ў экстрэмальных умовах — распальваць вогнішча, гатаваць ежу, быць дысцыплінаванымі. Варта адзначыць, што дзяцей набіралі з сацыяльна неўладкаваных сем'яў.

Лагер "Брыганціна" курсаваў па маршруце Бабруйск — Кісялевічы — Мірадзіна — Сычкава — Ізюмава — Елавікі — Бабруйск. Хлопцы даглядалі могілкі ўдзельнікаў Другой сусветнай вайны, аказвалі дапамогу старым людзям.

Час ад часу ў лагеры ладзіліся культурныя мерапрыемствы. На сайце «Будзьмы» ёсць невялікая нататка, як да дзяцей прыязджалі пісьменніца Вольга Бабкова, а таксама бард Андрэй Мельнікаў. Ездзілі туды і іншыя дзеячы беларускай культуры.

Адзначым яшчэ раз, усё адбывалася абсалютна легальна, дазволена. Клуб быў патрыятычны, але зусім не экстрэмісцкі.

Кіраваў клубам былы спецназавец Мікалай Міхалькоў. Па нашых звестках, ён не арыштаваны. Але рашуча адмаўляецца размаўляць на гэтую тэму.

Прычым тут «Белы легіён»? З тых рэдкіх здымкаў, што фігуравалі ў інтэрнэце з лагера Міхалькова, можна ўбачыць, што некаторыя з удзельнікаў мелі шаўроны «Беларусь. Гонар. Годнасць». Такімі карысталіся актывісты, якія выйшлі з «Белага легіёна». Але нічога кепскага і незаконнага ў такіх словах няма.

Што такое «Белы легіён»? Гэта патрыятычная арганізацыя, якая існавала ў 1990-я і спыніла сваю актыўную дзейнасць яшчэ на пачатку 2000-х. Але цяпер нехта зноў спрабуе выцягнуць з шафы шкілет — арганізацыю, якая даўно не існуе.

Па нашых звестках, леташні лагер пад Бабруйскам актыўна здымалі супрацоўнікі спецслужб. Крыніцы «Нашай Нівы» выказваюць меркаванне, што ўжо тады рыхтавалася нейкая правакацыя.

**Паводле «Нашай Нівы»**

# Бумеранг рэпрэсій

**Улады, аказваючы ціск на пратэстоўцаў, могуць зрабіць горш сабе, а іх апаненты ўзмоцняць свае пазіцыі.**

Калі людзі выжываюць на 200 рублёў у месяц, атрымліваюць зарплату зефірам ці з'язджаюць чорнарабочымі на заробкі ў Расію, незадаволенасць рэжымам застанецца, і рэпрэсіі тут не дапамогуць. А ў пэўны момант рэпрэсіі замест таго, каб здушыць пратэст, могуць выклікаць яшчэ большыя выступы.

Для ўладаў значна больш рацыянальна не ўжываць гвалту на Дзень Волі, каб пазбегнуць наступстваў, бо вось што кіраўніцтва краіны атрымае, калі зноў пойдзе на гвалт.

**Ізаляцыя на міжнароднай арэне.** Пацяпленне ў адносінах з Захадам можа раптоўна змяніцца холадам санкцыйнага перыяду. Усё, што так старанна ў апошні час будавалася спадаром Уладзімірам Макеем і яго ведамствам, можа абрынуцца як картачны дамок.

Гэта прывядзе да падзення прэстыжу і аўтарытэту краіны на міжнароднай арэне, і такім чынам аслабіць пазіцыі беларускага кіраўніцтва. Знізіцца таксама прывабнасць краіны для замежнікаў. І так невялікі паток турыстаў яшчэ больш скароціцца. І ніякія візавыя лібералізацыі тут не дапамогуць.

**Абмежаванне замежнай фінансавай дапамогі.** Выкарыстоўваючы рэпрэсіі, кіраўніцтва краіны тым самым абмяжуе сабе доступ да заходніх крэдытаў і міжнароднай фінансавай дапамогі, і перадусім да вельмі пажаданага цяпер крэдыту МВФ.

Немалаважным наступствам будзе таксама зніжэнне і так невысокага ўзроўню замежных інвестыцый і экспарту.

**Эскалацыя канфлікту.** Прадстаўнікі тэорыі «эфекту бумеранга» звяртаюць увагу на тое, што рэпрэсіі могуць несці пагрозу тым, хто іх ініцыюе, часцяком выклікаючы асіметрычны адказ з боку тых, супраць каго яны былі ўжытыя. Гэта вядзе да эскалацыі канфлікту.

Вядома, заўсёды існуе вялікая спакуса хутка вырашыць праблему, выкарыстоўваючы наяўныя сілавыя рэсурсы, асабліва ў сітуацыі, калі гэта ўжо не раз дапамагала.

Аднак праблема нікуды не сыходзіць, а негатыўная энергія і эмоцыі, выкліканыя рэпрэсіямі, не знікаюць, а толькі назапашваюцца. І аднойчы яны абавязкова вырвуцца вонкі паводле «закону бумеранга».

Асабліва гэта небяспечна падчас крызісу, калі трэба аб'ядноўвацца і сумесна працаваць для яго пераадольвання.

Рэпрэсіі ж пагаршаюць і без таго нялёгкую сітуацыю ў краіне ды непазбежна б'юць бумерангам па ўладах, прымушаючы дзяржаўны механізм усё часцей даваць збоі. Гэта вядзе да ўзмацнення крызісу і яшчэ больш хісткай пазіцыі кіраўніцтва краіны.

Для апазіцыі дадзеная сітуацыя стварае новыя магчымасці, якімі трэба разумна скарыстацца. Гэта добры час для папаўнення сваіх шэрагаў новымі людзьмі і заваявання даверу ў насельніцтва. Людзі шукаюць, каму яны маглі б паверыць, хто зразумее іх праблемы і дапаможа іх вырашыць.

Безумоўна, рэпрэсіі з'яўляюцца незаконнымі, і той, хто мае дачыненне да іх, выдатна гэта разумее. Відавочна, што за здзяйсненне злачынстваў рана ці позна давядзецца адказваць.

Калі раней рэпрэсіі былі дэманстрацыяй сілы рэжыму, то цяпер яны толькі паказваюць банкруцтва ўладаў і кажуць, што кіраўніцтва ўжо нічога не можа прапанаваць людзям.

**Паводле ideaby.org**

# Вяртаецца 1937 год?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У краіне працягваюцца масавыя затрыманні актывістаў у сувязі з заявамі пра так званых «баевікоў».**

На момант сдачы нумару ў друк праваабаронцы называлі 21 затрыманага, якім інкрымінуецца частка 3 артыкула 293 КК «Масавыя беспарадкі»: «Навучанне ці іншая падрыхтоўка асобаў для ўдзелу ў масавых беспарадках, якія суправаджаюцца ўчыненнем дзеянняў, прадугледжаных часткай першай гэтага артыкула, а таксама фінансаванне ці іншае матэрыяльнае забеспячэнне такой дзейнасці караюцца арыштам на тэрмін да шасці месяцаў або пазбаўленнем волі на тэрмін да трох гадоў».

У лепшых традыцыях НКУС, спецслужбы затрымлівалі людзей і праводзілі ў іх вобшукі бліжэй да ночы. Хто ж гэтыя тэрарысты?

Міраслаў Лазоўскі, адзін з экс-лідараў «Белага легіёну» апошнія гады працуе намочнікам дырэктара выдавецтва «Кнігазбор», займаецца распаўсюдам беларускай літаратуры і кніжнымі прэзентацыямі. 18 сакавіка яго акаўнт у сацыяльных сетках быў узламаны, ад яго імя пачалі распаўсюджвацца паведамленні нібыта ад «Белага легіёну». У ім гаварылася, што «на дапамогу прыехалі нашы баявыя сябры з Расіі і Украіны, і мы гатовыя са зброяй у руках паказаць уладам, хто сапраўдны гаспадар у краіне». Сябры і блізкія Лазоўскага паведамілі пра ўзлом і заявілі, што гэтыя паведамленні — правакацыя.

Андрэя Комліка-Ямаціна затрымалі ўвечары 21 сакавіка, калі ён выносіў смецце. Комлік родам з Барысава. У войску не служыў, у сілавых структурах не працаваў. Андрэй і яго жонка Анастасія Комлік шылі адзенне ў нацыянальным стылі пад маркай «Terram album».

Алеся Яўдаху выкралі 21 сакавіка ў цэнтры Мінска, адразу пасля літаратурнай прэміі «Дэбют», на якой ён прысутнічаў. Яўдаха займаецца гандлем кнігамі поштай і ўразнос. Ён прадае праз інтэрнэт-краму кнігі Быкава, Арлова, Барадуліна.

Андрэй Дундукоў служыць у атрадзе спецпрызначэння Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Уганараваны медалём выдатніка МНС, інструктар Чырвонага крыжа, здымаўся ў іміджавым ролiку МНС. Яго затрымалі на памежным пункце з Украінай, калі ён выпраўляўся з сям'ёй на адпачынак.

Звыкла затрымалі Яўгена Афнагеля і Зміцера Дашкевіча. Прычым Дашкевіча — дома ва Уладзіміра Арлова. Дашкевіч збіраў пісьменніку кухню і замовіў піцу. Замест піцы прыехалі міліцыянты. Пакуль яго жонка Наста ездзіла па СІЗА высвятляць лёс мужа, у іх кватэры правяліператрус. Зніклі грошы, адкладзеныя на адпачынак, і кот па мянушцы Леапольд.

З Дашкевічам былі захопленыя абаронцы Курапатаў Сяргей Пальчэўскі і Арцём Леўчанка. У Пальчэўскага быў вобшук, зараз ён у СІЗА КДБ, Арцём Леўчанка — у СІЗА №1.

Яшчэ аднаго затрыманага, Віктара Данілава, пазналі сябры ў прапагандысцкім сюжэце па БТ. Данілава паказалі на фоне зброі і боепрыпасаў, але дасведчаныя людзі заўважылі, што гранаты, паказаныя ў сюжэце, — ўючныя муляжы. Зброя паляўнічая, а патроны — навучальныя, з так званай «абжымкай», некалькімі прарэзамі па баках. Страляць яны не могуць, бо пораху ў іх няма.

Таксама затрыманы Ілля Грэк, намеснік начальніка па ідэалогіі ў Смаргонскім памежным атрадзе, і Вячаслаў Дукшт, спецназавец з Мар'інай Горкі. Нельга з упэўненасцю сказаць, ці праходзяць яны па той жа справе.

Некаторыя з затрыманых былі датычныя да афіцыйна зарэгістраванага патрыятычнага летніка пад Асіповічамі.

Дакладнай інфармацыі дагэтуль няма, бо адвакатаў, у лепшых традыцыях 2010 года, не пускаюць да іх кліентаў, частка з якіх знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Прынамсі, па звестках праваабаронцаў, за сераду, 22 сакавіка, да падабаронных здолеў патрапіць толькі адзін адвакат — і той «дзяжурны».

Паводле падлікаў праваабаронцаў, за апошні час у сувязі з грамадскімі пратэстамі па ўсёй краіне было затрымана і асуджана больш за 280 чалавек.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як арганізаваць народны пратэст

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падобна на тое, што ўлада разгубілася. Адна рука не ведае, што робіць другая. Ну як можна было дзейнічаць так, каб шматкроць павысіць градус напружанасці ў грамадстве?**



Фота www.moyby.com

Я не ведаю, хто прыносіць інфармацыйныя зводкі на стол Аляксандру Рыгоравічу. Але гэтая інфармацыя каго заўгодна можа давесці альбо да інфаркту, альбо да істэрыкі. Адзін раз вобразная прамова беларускага кіраўніка ўжо стварыла інтэрнэт-мем, і не толькі. Тыдні два таму ён казаў, што «правакатараў», якія карыстаюцца грамадскімі пратэстамі, трэба павыкалупваць, як разынкі з булкі. У адказ на гэта на плошчы людзі пачалі выходзіць з плакатамі кшталту «Я разынка» ці «Усіх не пакалупаеш».

Зараз Лукашэнка агучыў інфармацыю, што Захад у чарговы раз рыхтаваў узброены пераварот у Беларусі. Нібыта, базы баевікоў былі створаныя ля Бабруйску і Асіповічаў, і там нейкія людзі праходзілі трэнінгі са зброяй. Грошы на гэта ішлі праз Польшчу і Літву, а выяўлена «сетка дыверсантаў» была дзякуючы неабыякавай эмігрантцы з Беларусі, якая прыйшла ў пасольства і пра ўсё гэта расказала.

Як звычайна, кіраўнік дзяржавы сказаў, што больш дакладную інфармацыю ён прадставіць грамадскасці пазней. Але рубель за сто даю, што «пазней» ніякай інфармацыі не будзе.

Нас ужо шматкроць пужалі баевікамі, ды так, што нават надакучыла. У 2006 годзе дагэтуль не вядомыя людзі спрабавалі атруціць водаправод Мінска дохлым пацуком. У 2010-м «знайшлі» нейкі гараж са зброяй. Хто-небудзь чуў, каб па гэтых фактах была распачата крымінальная справа, а вінаватыя прыцягваліся да адказнасці за спробу ўзброенага дзяржперавароту? Нас ужо з дзясятак гадоў палохаюць інструктарамі спачатку УНА-УНСО, потым «Правага сектару». Хоць бы новае што-небудзь прыдумалі.

Калі людзі выходзілі на плошчы з плакатамі пра «разынкі», гэта было цікава і смешна. Калі зараз утворыцца новы мем, і людзі пойдуць на вуліцы з плакатамі «Я баявік, які прайшоў трэнінг у Асіповічах» — так смешна ўжо не будзе. Гэта будзе азначаць вышэйшы градус абуранасці і разлаванасці. А для таго, каб людзі разлаваліся, улада сапраўды ўсё робіць сама.

Няўжо не бачна, што тактыка запалохвання не спрацоўвае? Улада павінна была зрабіць высновы з «Маршу недармаедаў» 15 сакавіка. Перад мерапрыемствам перасаджалі паўтары сотні чалавек у Мінску і рэгіёнах. А на марш выйшла людзей не менш, чым на папярэдні 17 лютага. Улада пасадзіла яшчэ з паўсотні пасля сакавіцкай акцыі, але гэта не спыніла пратэст у рэгіёнах. Сапраўды, калі людзям няма чаго губляць, іх адначасова і няма чым запалохаць.

**Сваімі дзеяннямі ўлада дадала колькасці ўдзельнікаў акцый пратэсту. Калі народ не запалохалі пасадкамі «на суткі», дык байкамі пра баевікоў людзей дакладна не спужаеш**

Да таго ж, скажонае ўспрыняцце рэальнасці непазбежна адбіваецца на адэкватнасці прымаемых рашэнняў. Калі доўга крычаць: «Ваўкі!», гэтыя ваўкі абавязкова з'явяцца, — і, хутчэй за ўсё, нябачна, і не з таго боку, адкуль ты іх чакаў.

У любым выпадку, безадказныя заявы кіраўніка дзяржавы толькі падвысілі градус злосці і абурэння ў грамадстве. Асабліва наступная.

Як можна было на ўсю краіну заявіць пра «замарозку» дэкрэту №3, а праз два тыдні на сустрэчы з працоўнымі сказаць: «Дэкрэт №3 я не адмяняў і нават не прыпыняў. Гэта няслушна кажуць. Дэкрэт №3 сёння працуе»? Няўжо Аляксандр Рыгоравіч, які амаль трыццаць гадоў у вялікай палітыцы, не ведаў, што менавіта гэта стане загалоўкамі навінаў? А яго словы пра тое, што ён патрабаваў «спыніць выплаты за гэты год» застануцца амаль незаўважаным фонам?

Менавіта сваімі неабачлівымі дзеяннямі ўлада дадала колькасці ўдзельнікаў акцый пратэсту. І, канешне ж, калі народ не запужалі рэальнымі пасадкамі «на суткі», то байкамі пра баевікоў-бандэраўцаў людзей дакладна не спужаеш.

Можна было б сцішыць пратэст, напрыклад, якой-небудзь пазітыўнай навінай пра чарговы прарыў у нашых адносінах хоць з кімсьці. Аднак з гэтым — швах. На тыдні ў чарговы раз на перамовы па нафтагазавым пытанні ў Маскву злятаў Уладзімір Сямашка. Зыходзячы з таго, што інфармацыя пра яго перамяшчэнні ёсць, а пра вынік гэтых перамяшчэнняў — няма, ён там ні да чаго не дамовіўся. А значыць, эканоміка Сінявокай працягне засмоктвацца ў багну.

Затое, як заўсёды, «парадаваў» Белстат. Згодна яго падлікам, рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Беларусі за 2016 год знізіліся на 7,3% у параўнанні з узроўнем 2015-га. Прычым, урад планаваў не падзенне, а павышэнне даходаў: праўда, толькі на 0,5%. А праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2016–2020 гады закладзены рост рэальных наяўных грашовых даходаў насельніцтва ў 2020 годзе ў адносінах да 2015 года на 9,5–11,6%.

Падаецца, гэта той самы «воўк», які пакрысе падкрадаецца да нас у той час, як мы шукаем невядомых баевікоў у беларускіх лясах.

Ну і, канешне, фішка тыдня. Аляксандр Рыгоравіч загадаў беларускім навукоўцам вынайсці новую крыніцу энергіі. «Яшчэ я б хацеў, каб нашы навукоўцы вынайшлі нейкую новую крыніцу энергіі, каб мы на каленях не поўзалі нават перад нашымі братамі, молячы іх і выпрошваючы тону нафты або кубаметр газу», — працытавала ў аўторак словы кіраўніка дзяржавы яго прэс-служба.

Пошукам новых крыніц энергіі зараз заклапочаны ўвесь свет. А вынайдуць яго беларускія навукоўцы. Не верыце? А дарма. Лукашэнка ж доўгі час загадваў знайсці ў Беларусі яшчэ нафту, і напрыканцы мінулага года яму паведамілі — нафта знойдзеная ў аб'ёме 1,7 мільёна тон на год!

Праўда, ніхто не заклапаціўся тлумачэннямі, што менавіта такі аб'ём — 1,7 мільёна тон нафты, — Сінявокая здабывае на сваёй тэрыторыі штогод ужо дзясяткі гадоў. І амаль уся яна, з-за сваёй высокай якасці, ідзе на экспарт у ЗША.

Вось запусцяць БелАЭС, і таксама назавуць яе «новай крыніцай энергіі». Затое будзе што дакласці кіраўніку дзяржавы.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міраслаў Лазоўскі



**Адзін з былых лідараў «Белага Легіёну» затрыманы, моцна збіты і змешчаны ў СІЗА. Акрываўленага Лазоўскага людзі ў масках прывезлі дадому для вобшуку. Са словаў спецслужбоўцаў у цывільным, той «аказаў супраціў» падчас затрымання.**

Варта адзначыць, што напярэдадні затрымання акаўнт Лазоўскага ў Facebook быў узламаны, і ад яго імя рассылалася інфармацыя пра магчымы ўзброены супраціў. У той жа дзень яго сябры і ён сам паведамілі, што да гэтых заклікаў Лазоўскі не мае дачынення.

Апошнімі гадамі Лазоўскі працуе памочнікам дырэктара выдавецтва «Кнігазбор», займаецца распаўсюдам беларускай літаратуры і кніжнымі прэзентацыямі па ўсёй Беларусі. «Белы Легіён» быў спартова-патрыятычнай арганізацыяй, якая дзейнічала ў 1990-х гадах і спыніла сваё існаванне напачатку 2000-х. Кіраўнік арганізацыі, Сяргей Чыслаў, змяніў прозвішча на «Бульба» і зараз вандруе па Тыбеце.

Услед за Лазоўскім былі затрыманыя кнігараспаўсюднік Алесь Яўдаха і аматар экстрэмальнага турызму Андрэй Дундукоў. Ці маюць яны дачыненне да «Белага легіёну», невядома.

Гэта ўжо не першая спроба абвінаваціць Лазоўскага ў чымсьці жудасным і ўзброеным. Пасля тэракту на святкаванні Дня незалежнасці ў Мінску ў ноч з 3 на 4 ліпеня 2008 года Лазоўскі, Ігар Корсак і Сяргей Чыслаў таксама затрымліваліся па падазрэнні ў здзяйсненні таго выбуху. Аднак усіх выпусцілі праз 10 дзён, усе падазрэнні знялі, а Канавалава і Кавалёва, абвінавачаных у тым здарэнні, знайшлі толькі ў 2011-м.

## Алена Анісім

**Дэмакратычная дэпутатка Палаты прадстаўнікоў апынулася «невыязной» у Еўропу. Праўда, еўрапейскія санкцыі тут ні пры чым.**



Як паведаміла Анісім, праз пасольства Польшчы яна і Ганна Канапацкая атрымалі запрашэнне паўдзельнічаць у круглым стале па сітуацыі ў Беларусі ў польскім Сейме. «Пра гэта мне стала вядома 13 сакавіка, калі я знаходзілася ў сваёй выбарчай акрузе. 15-га я прыйшла ў Палату прадстаўнікоў і напісала заяву з просьбай без фінансавых выдаткаў дазволіць мне выезд за мяжу. Старшыня палаты спадар Андрэйчанка адмовіў у маёй просьбе, спаслаўшыся на тое, што я звярнулася да яго менш чым за 10 дзён да даты сустрэчы ў Сейме», — расказала дэпутатка.

Пасля гэтага Анісім падала новую заяву — з просьбай дазволіць узяць пару дзён за свой кошт і ў гэты час з'ездзіць у Польшчу. «Я пакінула заяву і адразу пасля гэтага накіравалася ў акругу, дзе знаходжуся цяпер. Мне патэлефанавалі з канцылярыі і паведамілі, што і на гэты раз мне дазволу не даюць», — кажа дэпутатка.

Па яе словах, Канапацкая атрымала такія ж адказы.

## Валер Шчукін



**Аднаму з самых харызматычных і ўпартых эксдэпутатаў Беларусі, капітану другога рангу ў адстаўцы, камуністу Валеру Шчукіну 22 сакавіка споўнілася 75 гадоў, з чым яго і віншуем.**

Валер Шчукін нарадзіўся 22 сакавіка 1942 года ва Уладзівастоку. Скончыў школу ў Мінску, потым — Ленінградскую вышэйшую вайскова-марскую інжынерную вучэльню, потым вярнуўся ў Мінск. Адсюль яго прызвалі ў войска, атрымалася — на 27 гадоў. Па заканчэнні службы на флоце Валер Шчукін вярнуўся ў Мінск. Быў абраны дэпутатам ВС 13 склікання, стаў у апазіцыю да Лукашэнкі і ператварыўся ў самага прынцыповага барацьбіта. На турэмным рахунку Шчукіна — некалькі дзясяткаў адміністрацыйных арыштаў.

Крымінальныя справы на яго заводзілі тройчы. Першы раз — у 1999 годзе за «Марш Свабоды». У 2001 годзе Шчукін адседзеў тры месяцы арышту за непадпарадкаванне ахоўнікам і пабітае шкло ў будынку Міністэрства ўнутраных спраў — Шчукін спрабаваў трапіць на прэс-канферэнцыю міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Навумава, куды яго не пускалі. У 2007 годзе — трэцяя «крыміналка» за пісьмовую абразу гонару і годнасці сяброў выбарчых камісій (справа скончылася вялікім штрафам).

Азбука паліталогіі

# Беларускі сцэнар

**Што агульнага паміж апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі ў ЗША і першымі прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі?**



Сяргей НІКАЛЮК

Як ні дзіўна, адказ на гэта пытанне ляжыць на паверхні: у абодвух выпадках мы маем справу з «паўстаннем мас». І, як мы пабачым ніжэй, амерыканцаў і беларусаў падштурхнулі да паўстання падобныя прычыны.

У 1994 годзе на першых і апошніх дэмакратычных выбарах у Беларусі пазасістэмны кандыдат-папуліст выскачыў як чорт з табакеркі і, насуперак прагнозам, перамог кандыдата ўлады прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча.

Хто галасаваў за Лукашэнку? Сацыяльная перыферыя: немалыя людзі з нізкім узроўнем адукацыі, якія пражываюць у малых гарадах і сельскай мясцовасці. Ён перамог насуперак меркаванню палітычнай эліты і нягледзячы на адкрытае супрацьстаянне з боку дзяржаўных СМІ.

Знаёмая карціна, калі перасекчы Атлантычны акіян і перамясціцца ў машыне часу на 22 гады. Адзінае сур'ёзнае адрозненне ў сацыяльна-дэмаграфічнай структуры электарату пазасістэмных кандыдатаў — гендэрнае. 53% ад колькасці тых, хто прагаласаваў за Дональда Трампа, складалі мужчыны. І толькі 42% жанчын прагаласавалі за яго. Што да беларускага трыумфатара першых і ўсіх наступных прэзідэнцкіх выбараў, дык сярод яго прыхільнікаў заўсёды пераважалі прадстаўніцы слабага полу.

«Жанчына, — паводле справядлівай заўвагі адзінага палітыка (АП), — па сваёй сутнасці больш стабільны чалавек». У вечнай барацьбе дзвюх сілаў — якія адказваюць за захаванне стабільнасці і за адаптацыю да пераменаў — прырода ўсклала адказнасць за стабільнасць на жанчын, а за адаптацыю — на мужчын. Таму слабая палова чалавецтва схільная абіраць так званых «моцных лідараў», г.зн. тых, хто ў наш бурны час здольны падтрымліваць парадак і супрацьстаяць хаосу.

У гендэрнага парадоксу Дональда Трампа існуюць простыя тлумачэнні. Па-першае, антыфемінісцкія выказванні палітыка-бізнесмена, якія знаходзяцца па-за межамі дапушчальнага. Па-другое, жаночая салідарнасць пры галасаванні. Нагадаем, што ўпершыню ў гісторыі прэзідэнцкіх выбараў у ЗША кандыдату-мужчыну супрацьстаяла жанчына.

Сацыялогія сацыялогіяй, але многія беларусы ўспрымаюць падабенства двух палітыкаў на інтуітыўным узроўні. Сярод іх — Лідзія Ярмошына. Цытую: «У Дональда Трампа ў частцы манеры паводзінаў, канкрэтнасці і адназначнасці ёсць нешта агульнае з Аляксандрам Лукашэнкам».




### Электаральная арыфметыка

«Феномен Трампа, — адзначыў патрыярх амерыканскай палітыкі Генры Кісінджэр, — гэта, у вялікай ступені, рэакцыя простых амерыканцаў на нападкі на іх каштоўнасці з боку інтэлектуальнага і акадэмічнага асяродку. Ёсць і іншыя прычыны, але гэта — значная».

Вынікі галасавання такую выснову пацвярджаюць: чым ніжэй узровень адукацыі, тым больш галасоў аддадзена Трампу. У выніку Клінтан перамагла сярод выпускнікоў універсітэтаў (58% супраць 37%). Насельніцтва ж з сярэдняй і няпоўнай сярэдняй адукацыяй прагаласавала сэрцам за Трампа (51% супраць 45%).

Калі ўзяць усе 981 выбарчую акругу і вылучыць з іх 50 найбольш адукаваных, у 48 з іх перамагла Клінтан. Дзве акругі, у якіх яна прайграла, — у штатах Нью-Ёрк і Мэрыленд, дзе размешчаны рэзідэнцыі найбольш заможных фінансістаў краіны. Дарэчы, у акрузе Манхэтан, дзе жывуць не столькі фінансісты, колькі ўладальнікі шматмільённых актываў з усяго свету, з лікам 9:1 выйграла Клінтан.

Феномен Лукашэнкі — гэта рэакцыя простых беларусаў на пагрозы іх каштоўнасцям з боку рынкавай эканомікі. Характарыстыку «простыя» ў дадзеным выпадку варта разумець у трактоўцы дырэктара Лявада-цэнтра Льва Гудкова: «гэта "просты" чалавек, абмежаваны (у інтэлектуальным, этычным і сімвалічным плане), які не ведае іншых мадэляў і ладаў жыцця, паколькі яму даводзіцца жыць ва ўмовах ізаляванага і рэпрэсіўнага грамадства».

Паміж простым амерыканцам і простым беларусам, безумоўна, ёсць шмат агульнага. Але колькі б паралеляў мы ні праводзілі, амерыканец застанецца амерыканцам, а беларус — беларусам. Нават на ўзроўні прастаты ад нацыянальных асаблівасцяў нікуды не схавацца. Абмяжуюся адной, прычым не якаснай, а колькаснай асаблівасцю.

Трамп — гэта першы за доўгія дзесяцігоддзі прэзідэнт меншасці. Ён стаў прэзідэнтам дзякуючы асаблівасцям выбарчага заканадаўства. Ад колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні, кандыдат-папуліст атрымаў 45,94%, у той час як яго апанентка — 48,03% (+2,8 мільёна галасоў).

Электаральная арыфметыка «ўсенароднаабранага» на першых прэзідэнцкіх выбарах была іншай. Паводле дадзеных ЦВК (у 1994 годзе Ярмошына яшчэ не мела да вынікаў ніякага дачынення), у першым туры яго падтрымалі 44,82%, а ў другім — 80,1% выбаршчыкаў (56% з улікам яўкі).

### Ад статыкі да дынамікі

Ад фактаў пяройдзем да прычынаў, што іх спарадзілі. На думку беларускага палітолага Аляксандра Шпакоўскага (гл. артыкул у «СБ» «ЕС упісаўся ў правы паварот»), свет перажывае свайго роду кансерватыўны паварот. Перамога Трампа ў ЗША і брытанскі Brexit — важныя, але далёка не адзіныя яго сведчанні.

Ліберальныя ідэі здаюць свае пазіцыі, бо ў апошнія 20–30 гадоў яны былі даведзеныя да абсурду. І сёння на нашых вачах разгортваецца правая рэвалюцыя, лічыць аўтар. Далей цытата: «Знявага хрысціянскіх традыцый і правоў карэннага насельніцтва пад соусам "талерантнасці" і мультыкультуралізму, ушчамленне нацыянальных інтарэсаў пад шыльдай глабалізацыі, дыскрэдытацыя сямейных каштоўнасцяў пад лозунгамі так званай гендэрнай роўнасці — было зроблена ўсё магчымае для дыскрэдытацыі так званых еўрапейскіх каштоўнасцяў у вачах шырокіх мас».

**Паміж амерыканцам і простым беларусам ёсць шмат агульнага. Але колькі б паралеляў мы ні праводзілі, амерыканец застанецца амерыканцам, а беларус — беларусам**

Вызначыць хваробу, паставіць правільны дыягназ — гэта першая і самая цяжкая задача, сцвярджаюць медыкі. Пры прыняцці палітычных рашэнняў разуменне прычын, якія спарадзілі крызіс, — задача не менш працаёмкая. Але калі памылка медыка можа прывесці да смяротных наступстваў для аднаго чалавека, дык памылка палітыка здольная абярнуцца трагедыяй для мільёнаў.

Увесь букет негатыву, пералічаны Шпакоўскім, сапраўды мае месца. Але ці мы тут ліберальныя ідэі, змагацца з якімі прапануецца з дапамогай кансерватыўнага павароту? На рубяжы XVIII–XIX стагоддзяў у Еўропе пачалася прамысловая рэвалюцыя. Яе галоўны вынік — пераход ад статыкі, уласцівай сярэднявеччу, да дынамікі.

Калі 200 гадоў таму паводле ВУП на душу насельніцтва перадавыя краіны апярэджвалі краін-лузераў у 4 разы, дык сёння — у 100, і разрыў гэты працягвае павялічвацца. Гэта розніца і гоніць сёння мільёны з Паўночнай Афрыкі ў Еўропу, часцяком з рызыкай для жыцця. Інтэрнэт падказвае, што, паводле дадзеных Міжнароднай арганізацыі па міграцыі (МАМ), у 2016 годзе пры спробе перасекчы Міжземнае мора загінула каля 5 тысяч чалавек. Гэта крызіс? Крызіс. Але дзе, у ліберальнай Еўропе або ў кансерватыўнай Афрыцы?

### Мільёны працоўных месцаў для робатаў

Тэлефануе прыяцель і прапануе забраць відэамагнітафон і скрынку касет бязвыплатна, г.зн. дарма. Але ці мне тое трэба? Уяўляеце рэакцыю маёй жонкі на гэты цуд бытавой тэхнікі!

Як пісаў Станіслаў Лем: «Ад лучыны да электрычнай лямпачкі прайшла тысяча гадоў, ад лямпачкі да лазера — сто». Жыццёвы цыкл бытавых відэамагнітафонаў уклаўся ў два дзесяцігоддзі. Але сацыяльнае развіццё не паспявае за развіццём тэхналагічным. Учорашні цуд бытавой тэхнікі можна папросту выкінуць у кантэйнер для смецця, а што рабіць з тымі, хто аказваецца на ўзбочыне сучаснага жыцця? Ці ўратуюць іх сурагаты мінулага ў выглядзе традыцыйных каштоўнасцяў з іх нібыта духоўнасцю і сабарнасцю?

У лютым сарока інтэрнэту прынесла на хвасце інфармацыю пра вынікі ўкаранення робатаў на лініі па зборцы мабільных тэлефонаў на адным з прадпрыемстваў у Кітаі. З 650 працоўных звольненыя 590. Выпуск прадукцыі вырас на 250%, а колькасць браку скарацілася на 80%.

Калі ў 2015 годзе ў свеце на 10 тысяч работнікаў прыпадала 69 прамысловых робатаў, дык у Паўднёвай Карэі — 531, у ЗША — 176, а ў Расіі — 1! Наколькі рэалістычным на фоне такой статыстыкі выглядае абяцанне Трампа стварыць 25 мільёнаў працоўных месцаў? Баюся, што пакуль закасаўшы рукавы ён будзе працаваць над выкананнем свайго перадвыбарчага абяцання, стварэнне працоўных месцаў у вытворчасці наогул страціць які-небудзь сэнс.

Сёння маладыя людзі ў прамыслова развітых краінах выходзяць на рынак працы ў перыяд, калі рынкавая даходнасць хутка ссоўваецца ад працы да капіталу — да робатаў і штучнага інтэлекту. У выніку белы рабочы клас («сінія каўнерыкі») у традыцыйных прамысловых раёнах і сельскай Амерыцы апынуўся выціснуты на задворкі.

Поспехі глабалізацыі выдатна глядзяцца, калі іх ацэньваць з дапамогай макракарыстальнікаў сусветнага гандлю. Але ў медаля «За перамогу ў глабалізацыі» ёсць і адваротны бок, якім ён усё часцей паварочваецца да большасці насельніцтва ў прамыслова развітых краінах. І Беларусь у іх шэрагу не з'яўляецца выключэннем.

У 1994 годзе беларуская сацыяльная перыферыя зрабіла свой выбар. Яе палітычны кумір не прапанаваў нічога канструктыўнага, што магло б дапамагчы людзям, якія знаходзяцца ў цяжкім становішчы. Затое ён сваёй непаліткарэктнасцю выказаў іх гнеў. Праз 22 гады сітуацыя паўтараецца.

# Парадоксы пратэстаў



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Хваля вулічных выступаў пракацілася па Беларусі — і гэта ўжо не сацыяльныя пратэсты супраць дэкрэту №3, а цалкам палітычныя. Парадокс у тым, што іх удзельнікі вылучаюць тыя самыя патрабаванні, на абяцанні выканаць якія Лукашэнка калісьці прыйшоў да ўлады.**




## Бракавала чырвоных сцягоў

Нягледзячы на «прымаразку» дзеяння дэкрэту №3, маршы і акцыі пратэсту працягваюцца — і ў шматлікіх правінцыйных гарадах, і ў сталіцы. Ужо, здаецца, усе СМІ напісалі: у большасці на акцыі выходзяць простыя грамадзяне, а вось актывістаў апазіцыі было адносна няшмат. Гэта значыць, у рэгіёнах апазіцыянеры, блогеры і журналісты складалі відавочную меншасць. Большасць была прадстаўленая пенсіянерамі, працоўнымі і ўсімі тымі, хто быў альбо закрануты дзеяннем дэкрэту, альбо папросту апынуўся ў цяжкім сацыяльна-эканамічным становішчы.

Калі прааналізаваць патрабаванні пратэстантаў і іх прэтэнзіі да дзеючай улады, то апынецца, што ўсе гэтыя патрабаванні — цалкам і выключна «левыя». Людзі, якія мітынгуюць, патрабуюць не проста адмены дэкрэту (гэта было толькі нагодай). Іх патрабаванні — даць людзям працу, спыніць рост коштаў, спыніць дэіндустрыялізацыю, вярнуць рэальную «сацыяльную дзяржаву» з яе палёгкамі, спыніць рост тарыфаў ЖКГ і адмяніць падвышэнне пенсійнага ўзросту. Ва ўсім свеце падобнае ўспрымаецца адназначна: калі на плошчах гарадоў гучаць такога кшталту лозунгі, значыць, мітынгуюць левыя, сацыялісты або камуністы.

У тым і складаецца беларускі парадокс: пратэсты, якія праходзілі пад абсалютна «левымі» лозунгамі, распрабавалі ўзначаліць «правыя» палітыкі. У той час як іх калегі з левага палітычнага флангу сядзяць як мышы пад венікам. На самай справе: Анатоль Лябедзька, Юры Губарэвіч, Вольга Кавалькова, Віталь Рымашэўскі, Павел Севярынец і шэраг іншых — усе яны выйшлі з пратэстоўцамі на вуліцы і добрасумленна выправіліся за гэта ў турму. Але Сяргея Калякіна мы на вуліцах не пабачылі. Па сутнасці, за ўвесь левы бок палітычнага спектру аддзімаліся адны анархісты.

З анархістамі зразумела — ім па статусе тое прызначана. А куды падзеўся «Справядлівы свет»? Чаму не падняў чырвоны сцяг у абарону інтарэсаў працоўных людзей?

У асяроддзі апазіцыі сёння пра гэта імкнуцца не гаварыць, але ўсе ўдзельнікі пратэстаў, пачынаючы з акцыі 17 лютага, патрабавалі, скажам так, зусім не ліберальных рынкавых рэформаў. Дэ-факта людзі пайшлі на вуліцы, патрабуючы вяртання той самай сацыяльнай дамовы часоў ранняга Лукашэнкі — «чарка, шкварка, іншамарка» ў абмен на няўдзел электарату ў палітычным жыцці.

Сведкі апошніх акцый сцвярджаюць: у Бабруйску, напрыклад, некаторыя пратэстоўцы апелявалі да досведу Сталіна і Машэрава. У іншых гарадах спасылаліся на досвед пасляваеннага ўзнаўлення народнай гаспадаркі. Гэта значыць, людзі звярталіся да старых, яшчэ савецкіх мадэляў. Не выпадкова, пэўна, у пратэстах бралі ўдзел шмат пенсіянераў і людзей сярэдняга веку. Ім не патрэбна прыватызацыя заводаў і свабода СМІ, ім больш важнае пераразмеркаванне сціплых грамадскіх выгод ад «зажраўшыхся чыноўнікаў» да «простых людзей».

## Пастка не-рэформаў

Паспрабуем падсумаваць прэтэнзіі большасці пратэстоўцаў да дзеючай улады (ужо не чапаючы прывід дэкрэту №3):

- Закрыццё фабрык і заводаў, альбо іх праца па 1–2 дні на тыдзень.
- Скарачэнні залішніх працоўных месцаў.
- Недахоп новых працоўных месцаў (асабліва ў рэгіёнах).
- Немагчымасць пражыць, з'яўляючыся афіцыйна беспрацоўным.
- Павелічэнне пенсійнага ўзросту.
- Павелічэнне мінімальнага стажу для атрымання пенсій.
- Выключэнне перыяду дэкрэтнага адпачынку з працоўнага стажу.
- Згортванне льготнага крэдытавання будаўніцтва жылля.
- Падвышэнне коштаў на паслугі ЖКГ.
- Згортванне дзяржрэгулявання коштаў на жыццёва важныя групы тавараў.
- Фактычная замарозка росту заробкаў і пенсій.




Радаков А.А. Самодержавный строй. Russia 1917 Radakov A.A. Autocratic build.

Праблема, аднак, у тым, што гэта менавіта тыя негатыўныя эканамічныя наступствы, якія звычайна суправаджаюць пачатак ліберальных рэформаў. Больш за тое, крытыкі дэмакратычнага шляху развіцця ўжо публічна заяўляюць, што большасць з пералічаных праблем — наступствы таго, што беларуская ўлада, жадаючы атрымаць новыя крэдыты, «дзейнічае па ўказцы МВФ і Сусветнага банка».

На самай жа справе афіцыйны Мінск з усіх шматлікіх рэкамендацый МВФ бярэ толькі тыя, якія яму выгадныя. Гэта значыць тыя, якія дазволяць знізіць нагрузку на бюджэт і прадпрыемствы, што застаюцца ў дзяржаўнай уласнасці. Усё астатняе проста ігнаруецца — або выконваецца на паперы, без рэальнай рэалізацыі. Як, напрыклад, падтрымка малога бізнесу. У выніку кіраўнік краіны заўсёды мае магчымасць заявіць: «Што вы дрэнна жывяце — дык гэта я выконваў рэкамендацыі МВФ. Вы ж самі прасілі рэформаў! Вось вам рэформы». І запярэчыць на такую казуістыку будзе складана.

Ёсць адзін гістарычны прыклад, які я вельмі люблю прыводзіць, гаворачы аб правядзенні паспяховых рэформаў — прыклад Польшчы. У нас прапагандысты любяць прыгадваць «рэформы Бальцаровіча», які збанкрутаваў стратныя дзяржпрадпрыемствы і тым самым пазбавіў працы мноства палякаў. Але мала хто ўспамінае, што «рэформам Бальцаровіча» (гэта 1991 год) папярэднічалі «рэформы Мазавецкага» (1989 год), якія далі поўную свабоду польскаму прыватнаму бізнесу. У выніку за два гады ў Польшчы з'явілася мноства дробных прыватных прадпрыемстваў, разнастайных фірмаў і фірмачак. Менавіта яны ў 1991–1992 гадах «згасілі» хвалю беспрацоўя, даўшы магчымасць працаўладкавацца і годна зарабляць людзям, звольненым з дзяржаўных заводаў і вугальных шахт. А ў сукупнасці рэформы Мазавецкага і Бальцаровіча дазволілі Польшчы набраць такі тэмп эканамічнага росту, які дагэтуль дзівіць усю Еўропу.

Але ў Беларусі падобнае немагчыма па выключна ідэалагічных чынніках. У нас сёння мноства дзяржаўных прадпрыемстваў (галоўных працадаўцаў) ужо апынуліся нават не на мяжы — за мяжой банкруцтва, але пры гэтым у краіне не створаная «падушка бяспекі» ў выглядзе вялікай колькасці дробных прыватных бізнесаў. А тыя, што ёсць, месцяцца збольшага ў Мінску — у той час як беспрацоўе больш б'е па рэгіёнах.

## Памылка за памылкай

Тым часам кіраўніцтва краіны працягвае рашучы рух наперад — ад адных грабляў да іншых. Хібнасць дэкрэту №3 сёння гатовая аспрэчваць, напэўна, толькі Мар'яна Шчоткіна. Аднак кіраўнік дзяржавы ўжо даў іншае, не меней «геніяльнае» распараджэнне — неадкладна (да 1 мая) працаўладкаваць усіх беспрацоўных праз грамадскія працы. І пры гэтым пацвердзіў сваё патрабаванне давесці сярэднюю зарплату ў 2017 годзе да 500 долараў.

Сумесь атрымалася, мякка кажучы, выбуханебяспечная. Калі працаўладкаваць усіх, хто не працуе, то ў краіне адразу абрынецца сярэдні заробак, найперш у бюджэтнікаў. Бо невялікі кавалачак «масла» бюджэтнага фінансавання давядзецца размазваць па кавалку хлеба нашмат большага памеру. Таму што працаўладкаванне непрацуючых «павесілі» на мясцовыя бюджэты. Пра што, дарэчы, Андрэй Кабякоў нагадаў кіраўнікам абласцей 14 сакавіка.

Да таго ж зразумела, што службоўцы пад сцягам «усеагульнага працаўладкавання» першым чынам створаць новыя працоўныя месцы для сябе саміх. Бо вышэйшае ўказанне трэба ўвасабляць у жыццё, складаць спісы непрацуючых, кантраляваць выкананне, правяраць яўку на грамадскія працы новых «паднаглядных» і гэтак далей. А значыць, патрэбныя новыя і новыя службоўцы. Даўно вядома, што чыноўніцкі апарат вельмі добра ўмее сам сябе павялічваць. Думаю, да 1 мая мы ў гэтым зноў пераканаемся.

Што атрымліваецца ў выніку? Нашмат больш высокая сацыяльная нагрузка на дзяржбюджэт, чым планавалася на момант яго прыняцця. Па-першае, дэкрэт №3 замест прыбыткаў прынёс страты. Па-другое, зараз трэба працаўладкаваць каля 400.000 рэальных (а не «статыстычных») беспрацоўных — тых, хто не стаў плаціць «падатак на дармаедаў». І зрабіць гэта за кошт бюджэту, бо прыватны бізнес цяпер хутчэй заклапочаны выжываннем, чым пашырэннем. Так, нагрузка ляжа найперш на раённыя бюджэты. Але тыя, зразумела, адразу і цалкам абгрунтавана запатрабуюць датацый ад цэнтра…

У выніку ва ўрадзе ізноў можа паўстаць прывід Пятра Пракаповіча, які будзе спакушаць вырашыць усе праблемы адным махам, проста ўключыўшы друкарскі станок. Гэта дазволіць і «па пяцьцот» забяспечыць, і грамадскія працы аплаціць, і новых чыноўнікаў працаўладкаваць, і па замежных крэдытах расплаціцца. Праўда, праз пару-тройку гадоў гэта адгукнецца новым крызісам, нашмат глыбейшым, чым цяперашні. Але ці шмат хто ў беларускай уладзе загадвае так «далёка» наперад?




**Усе чацвёра прэтэндэнтаў былі зарэгістраваныя ў якасці кандыдатаў у прэзідэнты 17 лютага 2006 года. На ўнікальных кадрах з фільма Юрыя Хашчавацкага «Плошча» добра бачна, як нерваваўся Лукашэнка падчас выступаў Мілінкевіча і Казуліна**

# Выбары–2006: па правілах і без…

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 16 снежня 2005 года прызначыла дату чарговых прэзідэнцкіх выбараў на 19 сакавіка 2006-га. На такую важную электаральную кампанію адводзілася ўсяго тры месяцы. Такім чынам Аляксандр Лукашэнка, які атрымаў права балатавацца на наступны тэрмін па выніках рэферэндуму 17 кастрычніка 2004 года, вырашыў апярэдзіць магчымых канкурэнтаў, унесці ў іх шэрагі смуту і атрымаць перамогу адным кароткім ударам.**

## Без Расіі нікуды

Ніхто не сумняваўся ў тым, што прызначэнне фактычна датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі непасрэдна звязана з візітам Лукашэнкі (днём раней) у Сочы, дзе ён сустрэўся са сваім расійскім калегам. На той час адносіны Мінска і Масквы не набылі востры канфліктны характар, а ў самога Уладзіміра Пуціна, відаць, яшчэ захоўваліся пэўныя ілюзіі на фарсіраванне і паскарэнне беларуска-расійскіх адносін. Яшчэ на папярэдняй сустрэчы ў Сочы 4 красавіка 2005 года два кіраўнікі прынцыпова дамовіліся пра тое, што з 1 студзеня 2006 года на тэрыторыі саюзных краіны ў якасці адзінага плацежнага сродку будзе выкарыстоўвацца расійскі рубель. Таму дабраслаўленне Лукашэнкі на чарговы тэрмін з боку Пуціна шмат у чым было абумоўлена выключна ўтылітарнымі мэтамі апошняга: Крэмль спадзяваўся істотна пашырыць расійскі ўплыў у Беларусі.

З мэтай замацаваць імідж лепшага сябра Расіі Лукашэнка 26 снежня 2005 года даў шырокае інтэрв'ю галоўнаму рэдактару «Российской газеты» Уладзіславу Фроніну (23 лістапада адбылася вялікая прэсавая канферэнцыя беларускага прэзідэнта для СМІ рэгіёнаў Расіі).

## Хто навенькі?

Цэнтральная камісія па правядзенні выбараў і рэспубліканскіх рэферэндумаў (ЦВК) 27 снежня 2005 года зарэгістравала 8 ініцыятыўных груп па зборы подпісаў для вылучэння кандыдатаў. Да гэтага шэраг вядомых асобаў (Пётр Краўчанка, Наталля Машэрава, Аляксандр Ярашук) заявілі пра свае прэзідэнцкія амбіцыі, аднак неўзабаве адмовіліся ад іх.

Акрамя **Лукашэнкі**, ініцыятыўная група якога склала 6 212 чалавек (кіраўнік ініцыятыўнай групы Віктар Шэйман звольніўся 4 студзеня 2006 года з пасады кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, што дзяржаўнымі СМІ было адмыслова паднесена як безумоўная павага да закона), свае групы зарэгістравалі:

**Аляксандр Вайтовіч**, загадчык лабараторыяй Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Нацыянальнай Акадэміі Навук (НАН) Беларусі, які ў 2000–2003 гг. быў старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу (1304 чалавекі; кіраўнік — Валерый Дунаеў);

**Сяргей Гайдукевіч**, лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу (3073 чалавекі; кіраўнік — Уладзімір Карунас);

**Аляксандр Казулін**, былы рэктар БДУ, кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) (3347 чалавек; кіраўнік — Мечыслаў Грыб);

**Аляксандр Мілінкевіч**, куратар праграм Фонду садзейнічання лакальнаму развіццю (5135 чалавек; кіраўнік — Аляксандр Бухвостаў);

**Зянон Пазняк**, лідар Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ (2366 чалавек; кіраўнік — Сяргей Папкоў);

**Сяргей Скрабец**, экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, кіраўнік некамерцыйнай арганізацыі Дабрачыннага фонду падтрымкі сацыяльных праграм у Беларусі «Светач» (141 чалавек; кіраўнік — Сяргей Галаганюк);

**Валерый Фралоў**, экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, генерал, ваенны пенсіянер (1 151 чалавек; кіраўнік — Ігар Азарка).




**На адным з выбарчых участкаў.** Фота www.news.tut.by

Адразу было бачна, што некаторыя кандыдаты не ў стане сабраць неабходную для рэгістрацыі — не менш за 100 тысяч — колькасць подпісаў. Так здарылася з Аляксандрам Вайтовічам, Сяргеем Скрабцом і Валерыем Фраловым. Два апошнія заявілі, што нібыта сабралі неабходную колькасць аўтографаў, аднак лічаць Аляксандра Казуліна больш прымальнай кандыдатурай.

Вельмі цмянымі выглядалі перспектывы ўдзелу ў кампаніі Зянона Пазняка, які пастаянна пражываў за мяжой. Таму прагнозы палітолагаў і экспертаў пра сімвалічнае вылучэнне некалі ўплывовага кіраўніка БНФ спраўдзіліся: неўзабаве Пазняк заявіў, што ўвогуле не будзе здаваць подпісы ў ЦВК.

Такім чынам, змагацца за прэзідэнцкае крэсла павінны былі Сяргей Гайдукевіч, Аляксандр Казулін, Аляксандр Лукашэнка і Аляксандр Мілінкевіч.

## «Шэрыя коні»

Што да Гайдукевіча, то гэты палітычны лаўкач наўрад ці ўяўляў сапраўдную канкурэнцыю Лукашэнку і, хутчэй за ўсё, выступаў у якасці статыста. Асноўнымі супернікамі Лукашэнкі лічыліся Казулін і Мілінкевіч.

Вучоны-фізік Аляксандр Мілінкевіч быў абраны ў якасці адзінага кандыдата на Кангрэсе дэмакратычных сіл 2 кастрычніка 2005 года, перамогшы Анатоля Лябедзьку, Сяргея Калякіна і Станіслава Шушкевіча. Раней імя Мілінкевіча было больш вядома ў лакальным — гродзенскім — маштабе. Абранне Мілінкевіча было выклікана, хутчэй за ўсё, жаданнем апазіцыі паказаць выбаршчыкам новы твар, то бок здольнасць змяняцца ў палітыцы. Мілінкевіч былі забяспечаны адносна неблагія рэсурсы: на яго працавалі некалькі партый, а таксама шэраг незалежных установ і ініцыятыў.

Безумоўную інтрыгу ў працэс унёс Аляксандр Казулін, у якога былі асабістыя рахункі з Лукашэнкам.

Кар'ерныя амбіцыі Казуліна выявіліся яшчэ ў 1991 годзе, калі ён імкнуўся ўзначаліць міністэрства адукацыі БССР. Аднак камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны яму адмовіла. Аднак Казулін усё ж здолеў стаць намеснікам міністра адукацыі ў красавіку 1992 года, а ў маі 1994 года — першым намеснікам міністра.

У жніўні 1996 года Казулін без ваганняў прыняў сваё прызначэнне Лукашэнкам на пасаду рэктара БДУ з асаблівым статусам у рангу міністра. Вылучаючы маладога Казуліна, Лукашэнка, канешне, разлічваў, што вядучая навучальная ўстанова будзе ачышчана ад «нядобранадзейных элементаў». Дзяржава ўсяляк спрыяла БДУ, а Казулін выявіўся як неблагі кіраўнік (на афіцыйным сайце ўстановы Казулін называецца як «рэфарматар»). Дзякуючы гэтаму ўніверсітэт быў у стане шмат што сабе дазволіць.

Лукашэнка асабіста падтрымліваў свайго пратэжэ. Але гэта працягвалася да 9 верасня 2001 года, калі, па выніках прэзідэнцкіх выбараў, у БДУ Лукашэнку падтрымала прыкладна толькі пятая частка студэнтаў і супрацоўнікаў. Адказ з боку кіраўніка дзяржавы быў неадкладным: паводле пункта 3.6 указа №516 ад 24 верасня 2001 года «Аб удасканаленні сістэмы рэспубліканскіх органаў кіравання і іншых дзяржаўных арганізацый, падначаленых Ураду» БДУ падпарадкоўваўся Міністэрству адукацыі.

Наўздагон Лукашэнка некалькі разоў публічна раскрытыкаваў Казуліна. Напрыклад, 22 кастрычніка 2001 года пры прадстаўленні Мясніковіча ў якасці новага кіраўніка НАН Беларусі Лукашэнка заявіў, што ў БДУ нібыта дзейнічаюць тэрарыстычныя арганізацыі кшталту «Белага легіёна» «ЗУБРа». На другім з'ездзе настаўнікаў 3 лістапада 2001 года Лукашэнка шчыра прызнаўся, што не заслужыў ад БДУ такога выніку.

Сам Казулін разумеў сваё хісткае становішча, і спрыяльным выйсцем для апальнага рэктара былы бы пераход на іншую працу. Міністэрства замежных спраў у лістападзе 2002 года прапанавала яго кандыдатуру на пасаду пастаяннага прадстаўніка краіны ў ААН. Аднак Лукашэнка, які крыўдаваў на рэктара, у прызначэнні адмовіў.




**Наперад… у мінулае!** Крыніца: Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь

Казулін вымушаны быў працаваць у неспрыяльных умовах, але пэўныя вынікі былі: байкерскія сходы, дзейнасць мадэльера Аляксандра Варламава ў будынку ўніверсітэцкага ліцэю, розныя конкурсы і г.д. З цягам часу ўсё гэта стала раздражняць Лукашэнку, які лічыў сябе галоўным ньюсмейкерам у краіне. Апошняй кропляй для кіраўніка дзяржавы стала святкаванне з удзелам БДУ 1 верасня 2003 года Дня ведаў у парку забаваў «Dreamland», куды Казулін прыляцеў на верталёце і спусціўся з яго па лесвіцы.

Цвёрда вырашыўшы пазбавіцца Казуліна, Лукашэнка шукаў толькі зачэпку. І яна знайшлася ў выглядзе крымінальнай справы (Казулін праходзіў у якасці сведкі) за раскраданне маёмасці, якое нібыта мела месца на адным з прадпрыемстваў па вырабе каштоўных металаў, падначаленым БДУ. Пры адхіленні Казуліна ад пасады кіраўнік дзяржавы праявіў сапраўдНае палітычнае езуітства: адпаведны ўказ быў падпісаны ў дзень студэнта 17 лістапада 2003 года.

Лёс Аляксандра Казуліна, як і многіх іншых высокапастаўленых прызначэнцаў Лукашэнкі, дакладна ўпісваецца ў формулу «трыумф і трагедыя», калі папярэднія заслугі не з'яўляюцца гарантам асабістай бяспекі, а любая ініцыятыва — караецца.

Усе чацвёра прэтэндэнтаў былі зарэгістраваныя ў якасці кандыдатаў у прэзідэнты 17 лютага 2006 года. На ўнікальных кадрах з фільма Юрыя Хашчавацкага «Плошча» добра бачна, як нерваваўся Лукашэнка падчас выступаў Мілінкевіча і Казуліна. Апошні да таго ж прынёс на рэгістрацыю кнігу Алега Алкаева «Расстрэльная каманда».

## Малочныя рэкі ў кісялёвых берагах

Перадвыбарчыя праграмы кандыдатаў (па прычыне недапрацоўкі каманды Мілінкевіча яго праграму своечасова не данеслі ў дзяржаўныя СМІ) былі адначасова і рознымі, і аднолькавымі. Яны ядналіся ў тым, што абяцалі якасны прарыў у развіцці краіны і кардынальнае падвышэнне ўзроўню жыцця (у праграме Лукашэнкі «Дзяржава для народа» фігураваў заходнееўрапейскі ўзровень). Праграмы Казуліна і Мілінкевіча адрозніваліся ад праграм Гайдукевіча і Лукашэнкі тым, што там абумоўлівалася неабходнасць падзелу ўладаў, выбарнасць кіраўнікоў у рэгіёнах і ўзмацненне паўнамоцтваў парламента.

Найбольш умеранай была праграма Гайдукевіча «Новая Беларусь — адзінства». Яна канстатавала, што краіна «пробуксовывает», аднак прадугледжвала агульныя захады: развіццё прадпрымальніцтва, рэформу бюджэтнай і падатковай палітыкі, уступленне Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю і інш.

Праграма Казуліна «За краіну! За народ! За цябе!» і Мілінкевіча «Свабода, праўда, справядлівасць» імкнуліся агаліць найбольш балючыя кропкі: кантрактная сістэма, жыллё, зарплаты і пенсіі. Абодва кандыдаты рашуча выказаліся супраць кантрактнай сістэмы, а праблему жылля прапаноўвалі вырашаць з дапамогай іпатэкі. Што да заробкаў і пенсій, то планавалася іх істотнае павелічэнне. Так, Казулін абяцаў да 2011 года падвысіць сярэдні заробак у 4 разы. У Мілінкевіча ж сярэдні заробак увасобіўся ў канкрэтную лічбу — 550 еўра.

## Вагавыя катэгорыі розныя

У кіраўніка дзяржавы быў неабмежаваны матэрыяльны і адміністрацыйны рэсурс, моцныя сродкі масавай інфармацыі. Своеасаблівай артпадрыхтоўкай стала інтэрв'ю Лукашэнкі беларускім тэлеканалам 27 студзеня 2006 года, у якім прынялі ўдзел самыя адыёзныя прэзідэнцкія паплечнікі: Рыгор Кісель, Юрый Казіятка і Аляксандр Зімоўскі.

Квінтэсенцыяй інфармацыйнай барацьбы, безумоўна, стаў чарговы (трэці) Усебеларускі народны сход 2–3 сакавіка, на якім Лукашэнка ажыццявіў супраць сваіх апанентаў сапраўдную псіхалагічную атаку. Звяртае ўвагу той факт, што сход адбыўся ўсяго за два тыдні да асноўнага дня выбараў, у той час як папярэдні сход у 2001-м — за некалькі месяцаў.

Сход, зразумела, зацвердзіў Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2006–2010 гады, «цвіком» якой стала падвышэнне заробкаў і пенсій. Сярэдні заробак да 2010 года павінен быў стаць не менш 500 долараў (да канца 2006 года планавалася зрабіць мінімальны заробак у памеры не менш 200 долараў). Праграма прадугледжвала абнаўленне галін вытворчасці і сельскай гаспадаркі, развіццё сярэдніх і малых гарадоў. Аднак яна мела авантурны характар, бо распрацоўвалася з улікам вельмі нізкіх цэн на расійскія энергарэсурсы.

Улады перастрахаваліся і ў іншых напрамках. І адзін з іх — склад выбарчых участковых камісій, куды прадстаўнікі апазіцыі амаль не трапілі. Так, Аб'ядналая грамадзянская партыя вылучыла 800 чалавек (541 — у Мінску), аднак месца атрымаў толькі адзін.

**Хаця колькасць удзельнікаў лагеру была невялікай — ад 300 да 400 чалавек, — ён быў сапраўдным галоўным болем для ўлады і адначасова яскравай праявай супраціву і салідарнасці**

Традыцыйная роля адводзілася спецслужбам і сілавым органам. Асаблівую актыўнасць праявіў КДБ на чале са Сцяпанам Сухарэнкам, які на прэсавай канферэнцыі 16 сакавіка заявіў, што выкрыта цэлая арганізацыя (незарэгістраваная ініцыятыва «Партнёрства») тэрарыстаў, якая бачыла бы планавала сілавы захоп улады (абвяшчэнне перамогі Мілінкевіча праз дадзеныя экзіт-полаў) і дэстабілізацыю абстаноўкі (у тым ліку і з выкарыстаннем пацукоў для атручвання сістэмы водазабеспячэння).

Сілавікі не цураліся і прамых дзеянняў. 2 сакавіка 2006 года пры спробе зарэгістравацца дэлегатам на Усебеларускі народны сход Аляксандр Казулін быў жорстка збіты групай людзей пад кіраўніцтвам сумнавядомага Дзмітрыя Паўлічэнкі.

Што маглі супрацьпаставіць незалежныя кандыдаты? Эфірны час, выдзелены для іх на тэлебачанні і радыё, быў вельмі абмежаваны і нязручны. Па тэлебачанні кандыдаты маглі выступіць з 18 да 19 гадзін, па радыё — з 8 да 9 гадзін, то бок, калі асноўная маса выбаршчыкаў едзе дамоў з працы альбо збіраецца на яе.

Па тэлебачанні Казулін імкнуўся быць больш пераканаўчым, выкарыстоўваючы тыя метады, якія называюцца папуліцкімі: фамільярны зварот да Лукашэнкі на «ты» і пытанне наконт грошай: «Дзе грошы, Саша?», разарванне нумара «Советской Белоруссии»...

У актыве апазіцыі таксама быў інтэрнэт, рассылка смс-паведамленняў і, канешне, вулічны пратэстны патэнцыял, які планавалася рэалізаваць на сталічнай Кастрычніцкай плошчы ўвечары 19 сакавіка 2006 года.

Адным са сродкаў ціску на Лукашэнку стаў юрыдычны фактар. Напрыклад, Фралоў і Вайтовіч заклікалі Лукашэнку зняць сваю кандыдатуру, бо рэферэндум 17 кастрычніка 2004 года, які даў магчымасць Лукашэнку балатавацца чарговы раз, на іх думку, быў нелегітымны. Казулін настойваў, каб Лукашэнка падчас перадвыбарчай кампаніі зняў з сабе прэзідэнцкія паўнамоцтвы, як таго патрабуе заканадаўства.

## У Багдадзе не ўсё спакойна

Афіцыйныя вынікі кампаніі (14–18 сакавіка 2006 года адбылося датэрміновае галасаванне, у якім узялі ўдзел 31,3% выбаршчыкаў) былі наступнымі. З 7 133 978 грамадзян, якія былі ўнесены ў спісы для галасавання, у выбарах узялі ўдзел 6 630 653 чалавек, альбо 92,9%. З іх Лукашэнку падтрымалі 83% (у лістападзе 2006 года на прэсавай канферэнцыі для ўкраінскіх журналістаў Лукашэнка заявіў, што ён фальсіфікаваў — знізіў паказчык — выбары, бо вынік «за» сягаў за 90%), Гайдукевіча — 3,5%, Казуліна — 2,2%, Мілінкевіча — 6,1%. Супраць усіх прагаласавалі 3,5% грамадзян.

На спецыяльнай пастыбарчай прэс-канферэнцыі 20 сакавіка 2006 года Лукашэнка ўпэўнена заявіў, што рэвалюцыя ў Беларусі праваліася (23 сакавіка 2006 года ЦВК адпрэчыла скаргі Казуліна, Мілінкевіча і Беларускага Хельсінкскага камітэта аб прызнанні вынікаў выбараў несапраўднымі). Аднак кіраўнік дзяржавы яўна лукавіў.

Вечарам 19 сакавіка на Кастрычніцкай плошчы, нягледзячы на шматлікія запалохванні ўладаў, сабраліся дзясяткі тысяч пратэстоўцаў. А 20 сакавіка яны стварылі намётавы лагер на знак пратэсту супраць фальсіфікацый выбараў.

І хаця колькасць лагеру была невялікай — ад 300 да 400 чалавек, — ён быў сапраўдным галоўным болем для ўлады і адначасова яскравай праявай супраціву і салідарнасці.

Улады хутка зразумелі небяспеку намётвага лагеру (туды наведваліся нават пасланцы Еўрасаюза) і пачалі рабіць усё для яго лакалізацыі і абмежавання. На грамадзян, якія спрабавалі пранесці пратэстоўцам харчаванне і цёплае адзенне, праваахоўныя органы распачалі сапраўднае паляванне. Дзяржаўныя СМІ ўсяляк імкнуліся дыскрэдытаваць пратэст, сцвярджаючы, што яго ўдзельнікі ўжываюць наркотыкі і алкаголь.

Намётавы гарадок стаў для ўладаў і асабіста для Лукашэнкі незвычайнай формай пратэсту, якая, відаць, на нейкі час іх збянтэжыла. Гэта ўскоснае тлумачэнне таго, што намёты былі ліквідаваныя толькі праз некалькі дзён (у ноч з 23 на 24 сакавіка).

Выбары–2006 карэнным чынам адрозніваліся ад папярэдніх 2001 года. У Лукашэнкі з'явіліся сапернікі, якія прымусілі яго ўступіць у барацьбу, рабіць пэўныя захады. Выбаршчыкі ўбачылі, што альтэрнатыва палітыцы Лукашэнкі ўсё ж існуе. Ва ўсялякім разе, сітуацыя ў краіне перастала быць застылай.

***P.S.:** Самай трагічнай старонкай гэтай кампаніі сталі падзеі 25 сакавіка, калі была жорстка разагнаная калона дэманстрантаў, якую Казулін павёў з плошчы Парыжскай Камуны на Акрэсціна, каб падтрымаць затрыманых у ноч з 23-га на 24 сакавіка. На плошчы Багушэвіча шматтысячную калону акружыў і брутальна разагнаў спецназ. Больш за 100 чалавек былі затрыманыя. Хадзілі нават чуткі пра двух забітых. Разам з дэманстрантамі быў затрыманы і Аляксандр Казулін. 14 ліпеня ён быў прыгавораны да 5,5 года турэмнага зняволення. У турме Казулін трымаў 53 дні галадоўкі. Пасля гэтых падзей, названых «джынсавай рэвалюцыяй», ЗША і ЕС увялі санкцыі супраць Беларусі.*



**Спецназ рыхтуецца да разгону. 25 сакавіка 2006 г.** Фота Reuters



**На плошчы Багушэвіча 25 сакавіка 2006 г.** Фота АР



**Разгон намётавага лагеру.** Фота Reuters

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ФРАНЦЫЯ. Невядомая Ле Пэн

У кніжных крамах Францыі з'явілася біяграфія «La politique malgré elle», якая распавядае пра маладосць Марын Ле Пэн — лідаркі правапапулісцкай партыі «Нацыянальны фронт» (FN), кандыдаткі ў прэзідэнты. Кнігу, якую напісалі журналісты папулярнага выдання «Inrockuptibles», можна лічыць сенсацыйнай. На яе старонках мы бачым абсалютна іншую Марын. Калі верыць сабраным фактам, інтэрв'ю і ўспамінам яе былых сяброў, прыкладна да пачатку 1990-х гадоў дачка галоўнага праварадыкала краіны, мякка кажучы, не падзяляла поглядаў бацькі — Жана-Мары, заснавальніка FN. Замест таго, каб патрабаваць дэпартацыі ўсіх нелегалаў, яна тусавалася на дыскатэках і нават неяк фліртавала з музыкам з Тунісу. Больш таго, сваю кар'еру юрыста яна пачынала як палымяны абаронца імігрантаў-нелегалаў. У 1992 годзе вялікі рэзананс выклікаў яе эмацыйны выступ у судзе ў абарону нейкага алжырца, які пратэрмінаваў французскую візу. Прэса рэагавала на яе іранічнымі загалоўкамі кшталту «Куды глядзіць тата?». Сам Жан-Мары глядзеў на выхадкі дачкі абыякава, паколькі лічыў, што палітыка — не яе справа. Усё раптоўна змянілася прыкладна ў 1995 годзе, калі Марын занялася партыйнымі справамі. Што прымусіла Марын так радыкальна змяніць погляды, да канца незразумела.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. Новая тайна смерці Нямцова

У колах антыпуцінскай апазіцыі вялікі скандал, выкліканы незалежным расследаваннем забойства Барыс Нямцова, якое вядзе эканаміст Андрэй Іларыёнаў. Праўда, расследаванне ў выніку чамусьці ператварылася ў пошук адказу на пытанне, чаму Ілля Яшын, сябра Нямцова, схлусіў, калі распавядаў пра тое, што рабіў у вечар забойства. Паводле першай версіі, ён сядзеў у кавярні, калі яму патэлефанавала знаёмая і распавяла пра забойства. Пасля Ілля адправіўся на месца злачынства. Між тым, на думку Іларыёнава, Яшын да месца злачынства скіраваўся яшчэ тады, калі Нямцоў быў жывы. Такім чынам, «інфармацыю пра смерць Нямцова Яшын павінен быў атрымаць ад тых, хто непасрэдна назіраў за забойствам або ўдзельнічаў у ім». Больш за тое, як лічыць Іларыёнаў, Яшын мог быць выкарыстаны спецслужбамі для ліквідацыі апазіцыйнага палітыка. Сам Яшын пакуль адмоўчваецца. Праўда, нават прапуцінскія СМІ асцярожна каментуюць высновы Іларыёнава.

**Паводле расійскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Як называць бешбармак?

У казахскіх сацыяльных сетках разгарэліся вельмі бурныя дыскусіі наконт таго, ці правільна называць галоўную нацыянальную страву казахаў «бешбармак». Бешбармак уяўляе сабой адварное мяса з локшынай, якое трэба есці рукамі. Між тым, узнікла думка, што назву для гэтай стравы прыдумалі расійскія каланізатары. «Гэта слова прыдумалі царскія генерал-губернатары і іх памагатыя, што захапілі нашу зямлю. Казахі, якія зведалі ўсе нягоды каланіялізму і стаміліся ад розных зняваг, вымушаныя былі прыняць пасеянае імі слова», — піша адзін з крытыкаў цяперашняй назвы. На думку такіх аўтараў, бешбармак неабходна называць «казахскае мяса». Таксама нацыяналісты заклікалі не есці бешбармак рукамі, паколькі гэта таксама следства каланіяльнай культуры — царская адміністрацыя, маўляў, намагалася стварыць казахам імідж адсталай нацыі, якая не ведае нават лыжак і відэльцаў. Ёсць і аматары цяперашняй назвы, якія абсалютна лагічна ставяць пытанне: чаму каланізатары выкарыстоўвалі незразумелае ім казахскае слова, а не блізкія рускія? Пакуль ідуць дэбаты, у горадзе Шымкенце нацыяналісты дамагліся перайменавання дзвюх кавярняў з назвай «Бешбармак».

**Паводле казахскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Уэльс таксама марыць пра незалежнасць

Заява шатландскага ўраду пра намер правесці новы рэферэндум па пытанні незалежнасці краю пракаментавалі ў іншых суб'ектах Аб'яднанага каралеўства, у тым ліку ва Уэльсе. Уэльскія нацыяналісты, якіх прадстаўляе партыя «Plaid Cymru», ніколі раней не выходзілі за межы патрабавання пашырэння аўтаноміі мясцовай адміністрацыі. Аднак цяпер вуснамі свайго лідара Леані Вуда партыя таксама кажа пра магчымасць «незалежніцкага» плебісцыту. Але такое пытанне «Plaid Cymru» ўздыме выключна ў выпадку, калі шатландцы падтрымаюць ідэю сваёй дзяржаўнасці. Праўда, пазіцыі ў «Plaid Cymru» не такія моцныя, як у шатландскіх нацыяналістаў. Прынамсі, на рэферэндуме мінулага года большасць уэльсцаў (54 працэнты) падтрымала прабрытанскія партыі і выступіла за выхад Вялікабрытаніі са складу ЕС. З іншага боку, 64 працэнты ўэльскага экспарту ідзе ў краіны ЕС, што дае нацыяналістам глебу агітаваць за асобную дзяржаву, якая застанецца ў Еўрасаюзе.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Мова і Еўропа

Алег НОВІКАЎ

**Еўрасаюз можа апынуцца на парозе моўных войнаў.**

Фанаты еўрапейскай інтэграцыі чакалі гэтага дня практычна год. Пасля леташняга рэферэндуму ў Вялікабрытаніі на старым кантыненце пачалося трыумфальнае шэсце еўрафобаў. З кожнымі наступнымі выбарамі яны атрымлівалі ўсё больш мандатаў, выходзілі на новыя межы ўплыву на грамадскі дыскурс. Трэнд удалося спыніць толькі на мінулым тыдні. Па выніках парламенцкіх выбараў у Нідэрландах, што адбыліся 15 сакавіка, кансерватары, насуперак прагнозам, утрымаліся пры ўладзе. Ксенафобская «Партыя свабоды», хаця і павялічыла колькасць сябраў парламенцкай фракцыі, застаецца ў апазіцыі.



Фота www.lepoint.fr

**Прэзідэнт Іль-дэ-Франс Валеры Пекрэс: «Любім усіх, але працоўных месцаў замала»**

Праўда, прэса шмат піша, што перамога нідэрландскіх еўрафілаў нагадвае поспехі вядомага цара Піра. Апанентаў ЕС удалося спыніць выключна за кошт таго, што кансерватары самі актыўна кінуліся ўжываць ксенафобскую рыторыку. Тым не менш, шмат хто лічыць, што нідэрландскія выбары — гэта сапраўды пераломны момант у сучаснай гісторыі ЕС.

Праз тое, што ўсе назіралі за Нідэрландамі, амаль незаўважаным аказалася нядаўняе рашэнне парламенту французскага сталічнага рэгіёну Іль-дэ-Франс. Мясцовыя парламентары прагаласавалі за ўвядзенне так званай Clause Molière («умова Мальера»). Пастанова, названая ў гонар вялікага французскага драматурга Жана-Батыста Мальера, уводзіць новае патрабаванне для жадаючых працаваць у публічных службах рэгіёну. Цяпер кандыдаты павінны даводзіць, што здольныя размаўляць па-французску на працоўных месцах не горш за славутага Мальера.

Парламент сталічнага рэгіёну — не першы, хто ўводзіць Clause Molière. Прыкладна год таму мясцовыя заканадаўчыя органы краіны ахапіла сапраўдная мода — папулярызаваць французскую мову сярод супрацоўнікаў публічнай сферы. Пачынаючы з красавіка мінулага года, калі падобны законапраект быў упершыню прыняты ў адным з муніцыпалітэтаў, Clause Molière дзейнічае ўжо ў дзесяці рэгіёнах або дэпартаментах.

На першы погляд, прынятыя цыркуляр мае абсалютна бюракратычную прыроду. Нездарма так мудрагеліста гучыць матывацыя яго прыняцця: «камунікацыі паміж рознымі зацікаўленымі бакамі, уключаючы пытанні бяспекі або выканання абавязкаў». Натуральна, узгадалі аўтары пастановы і неабходнасць абароны ды прапаганды французскай мовы ва ўмовах глабалізацыі, якая нясе пагрозу моўнай асіміляцыі з боку мовы Шэкспіра.

Між тым, мала хто верыць у тое, што французскія лакальныя палітыкі так моцна заклапочаныя праблемамі эфектыўнасці менеджменту альбо стану роднай мовы. Грамадзянскія актывісты і прафсаюзныя арганізацыі падазраюць, што рэформа накіраваная зусім не на ўдасканаленне ўзаемадзеяння кіраўніцтва і падпарадкаваных. Галоўная задума прыхільнікаў «умовы Мальера», маўляў, абмежаванне доступу работнікаў-замежнікаў на французскі рынак працы.

Ідэя сапраўды выглядае бліскуча. Як вядома, побытавая, вулічная французская мова моцна адрозніваецца ад той, што вывучаюць у школах ці на розных моўных курсах. Іншымі словамі, пры жаданні заўжды можна адмовіць іншаземцу ў працаўладкаванні, і такім чынам неяк палепшыць сітуацыю з беспрацоўем — старой хваробай французскага грамадства.

З іншага боку, Clause Molière відавочна ставіць пад пытанне адзін з галоўных прынцыпаў еўраінтэграцыі — роўнасць грамадзян усіх краін-сяброў ЕС. Нівелюецца прынцып вольнага руху працоўных сілаў і капіталаў у межах ЕС — адзін з чыннікаў эканамічнага развіцця аб'яднання.

Нарэшце, прыём, калі з працоўнай міграцыяй змагаюцца мовай, па сутнасці, з'яўляецца рэалізацыяй асноўных пастулатаў ксенафобаў. Хіба што з той розніцай, што ксенафобы, напрыклад, з таго ж «Нацыянальнага фронту», абяцаюць змагацца з дэмпінгам на рынку працы жорсткімі прававымі — аж да паліцэйскіх — сродкамі, а дэмакраты робяць фактычна тое ж самае коштам моўных законаў.

У любым выпадку, Брусэлю трэба аператыўна дзейнічаць. Не так даўно Clause Molière як праект агульнанацыянальнага закону быў агучаны ў парламенце Францыі дэпутатам ад фракцыі правацэнтрыстаў. Пакуль большасць у Нацыянальнай асамблеі складаюць сацыялісты, наўрад ці такая заканадаўчая ініцыятыва будзе падтрыманая. У дадатак сацыялісты запатрабавалі ад рэгіянальных парламентаў «мадыфікаваць» іх варыянты Clause Molière, якія супярэчаць шэрагу дырэктыў ЕС. Аднак хутка пройдуць прэзідэнцкія выбары, пасля якіх, згодна традыцыі, новы прэзідэнт прызначае датэрміновыя парламенцкія выбары, на якіх сацыялісты, хутчэй за ўсё, прайграюць.

Існуе таксама пагроза, што аналагічныя Clause Molière пастановы могуць зацвердзіць і парламенты іншых краін. Вялікае абурэнне заканадаўчыя навацыі французаў выклікалі ў суседняй Італіі, адкуль сезонныя працоўныя даўно ездзяць працаваць да суседзяў. Натуральна, гучаць заклікі да парытэтнага адказу: прыняцця закону аб крытэрах ведання італьянскай мовы для грамадзян ЕС у Італіі. Падобную на Clause Molière ідэю днямі пачалі абмяркоўваць у шэрагу зямельных парламентаў Аўстрыі. Дарэчы, у выпадку імпарту ў Аўстрыю і ў іншыя краіны ЕС французскай заканадаўчай практыкі, яе ахвярамі стануць самі французы. Паводле статыстыкі, у краінах ЕС працуе каля 200 тысяч французскіх грамадзян, якіх можна будзе лёгка звольніць за няведанне мовы тубыльцаў.

Адным словам, еўрапейскай грамадскасці трэба не піць шампанскае з нагоды выбараў у Нідэрландах, а хутка пераключацца на моўны фронт.




**У той жа час 119727 французаў былі накіраваныя французскімі прадпрыемствамі для працы ў іншых краінах Еўрасаюза**


Фота www.deschide.md

# Германія: шоў Шульца

Алег НОВІКАЎ

**За Марціна Шульца як кандыдата ў канцлеры Германіі прагаласавалі сто працэнтаў (!) удзельнікаў партыйнай канферэнцыі сацыял-дэмакратаў Германіі.**

Яшчэ ніводны палітык у гісторыі Германіі не карыстаўся такой папулярнасцю сярод аднапартыйцаў (дагэтуль рэкорд утрымліваў іншы эсдэк — Курт Шумахер, за якога на партыйнай канферэнцыі галасавалі каля 97 працэнтаў прысутных). І, магчыма, Марцін Шульц сапраўды заслужыў гэтую неверагодную падтрымку. Пасля таго, як узімку ён адмовіўся ад пасады старшыні Еўрапарламента і стаў неафіцыйным кандыдатам эсдэкаў, рэйтынг «ружовых» вырас прыкладна на 11–12 пунктаў. Упершыню за апошнія дзесяцігоддзе Сацыял-дэмакратычныя партыя Германіі (SPD) і Хрысціянска-дэмакратычны саюз (CDU) Ангелы Меркель ідуць у апытаннях вельмі блізка, маючы прыкладна па 32–33 працэнты. З улікам такога фурору Шульца нават называюць ратавальнікам мясцовай сацыял-дэмакратыі.

Спачатку феномен «шульцаманіі» спісвалі на неардынарнасць яго палітычнага стылю і асаблівасці біяграфіі (Шульц прайшоў шлях ад хранічнага алкаголіка да старшыні Еўрапарламента). Тым не менш, у асяроддзі палітолагаў лічылася, што некалькіх месяцаў цалкам хопіць, каб Шульц надакучыў электарату.

Аднак тут новы лідар эсдэкаў выцягнуў джокер — пачаў актыўна эксплуатаваць сацыялку. Аж да таго, што паставіў пад сумнеў праграму «Агенда 2010» — блок структурных эканамічных рэформаў, якія пачалі праводзіцца з 2003 года па ініцыятыве тагачаснага ўраду эсдэкаў і «Зялёных». Той курс, які прадугледжваў абмежаванне выдаткаў на сацыяльную сферу для стымулявання стварэння новых працоўных месцаў, ацэньваюць па-рознаму. Нездарма захапленне ў асяроддзі простых немцаў выклікалі агучаныя Шульцам планы па пашырэнні сістэмы бестэрміновых працоўных дамоваў і павелічэнні тэрміну выплаты дапамогі па беспрацоўю.

Такі рэзкі паварот налева палітолагі разглядаюць як завочную адмову сацыял-дэмакратаў ад рымейка фармавання кааліцыі з кансерватарамі. Стаўка робіцца на кабмін па формуле «Rot-Rot-Gruene», то бок пакт SPD з партыяй «Левыя» і «Зялёнымі». Пакуль што сацыялогія дапускае такі сцэнар, хаця форс-мажоры магчымыя.

Напрыклад, прэса мае сумневы, што «Зялёныя» набяруць патрэбныя пяць працэнтаў, неабходныя, каб трапіць у Бундэстаг. Напярэдадні выбараў эколагі сыходзілі з прагнозу, паводле якога трыўмфатарам электаральнай кампаніі з 40–41 працэнтам падтрымкі будзе непераможная фраў Меркель. Меркавалася, што, атрымаўшы 8–9 працэнтаў, «Зялёныя» змогуць стварыць з «чорнымі» (партыйны фарбы CDU) кааліцыйны кабінет. Каб загадзя спадабацца Меркель, «Зялёныя» піярылі сябе як цэнтрысцкую палітсілу. Нечаканы ўздым SPD і адначасовае падзенне рэйтынгаў CDU паставілі крыж на перспектыве «чорна-зялёнага» кабінету. Акрамя таго, Ангела Меркель на фоне Дональда Трампа стала сімвалам еўрапейскай дэмакратыі і, адпаведна, CDU ўспрымаецца як партыя цэнтру — ніша, на якую прэтэндавалі эколагі. У шэрагу медыя нават задаюцца пытаннем: ці патрэбная ў такіх умовах партыя «Зялёныя»?

Выратаваць эколагаў можа сыход кансерватараў направа. Яшчэ ўчора такі варыянт не выключаўся, бо частка электарату CDU пасля крызісу з уцекачамі стала эмігравала ў лагер сімпатызантаў папулісцкай «Альтэрнатывы для Германіі» (AfD). Каб спыніць гэты працэс, упершыню за ўсю гісторыю Германіі кансерватары нават планавалі ісці на выбары не пад традыцыйнымі аранжавымі сцягамі, а пад нацыянальнымі.

Аднак з'яўленне Марціна Шульца паменшыла пагрозу з боку папулістаў. Не толькі таму, што Шульц — самы харызматычны апанент улады, якому Фраўке Петры — лідар AfD, — папросту не канкурэнт. Марцін Шульц узрымае вельмі важнае для выбаршчыкаў AfD (якія, як правіла, належаць да маргінальных фракцый грамадства), сацыяльнае пытанне. Як следства, літаральна за апошні тыдзень «Альтэрнатыва для Германіі» згубіла прыкладна тры працэнты падтрымкі. Упершыню за апошні час яе папулярнасць — менш за дзесяць працэнтаў.

І гэта яшчэ без канчатковага эфекту ад выбараў у суседніх Нідэрландах, дзе на мінулым тыдні папулісты пацярпелі фіяска. Дадзеныя нідэрландскай ЦВК разглядаюць як індыкатар стомленасці еўрапейскага электарату ад папулісцкіх абяцанняў. Сапраўды, нечага мегапазітыўнага Вялікабрытанія пасля Brexit і ЗША пасля абрання Трампа не дэманструюць.

На думку экспертаў, тыя немцы, якія расчараваліся ў папулістах, будуць, як правіла, уліваца ў клуб аматараў сацыял-дэмакратаў. Паводле прэсы, гаворка можа ісці пра пару сотняў тысяч выбаршчыкаў. Апошняе дазваляе асцярожна спекуляваць наконт непазбежнасці перамогі SPD і фармавання ўвосень кабінету «Rot-Rot-Gruen». Тым больш — гэта прызнаюць усе, — у шэрагах кансерватараў пануе нейкая апатыя, у тым ліку праз стомленасць ад фігуры Меркель. Аднак наўрад ці сітуацыя да верасня застанецца статычнай. Відавочна, паўстануць новыя чыннікі і новыя тэмы.

Усе тэзісы палітолагаў наконт варыяцый ходу кампаніі пройдуць тэст на трох зямельных выбарах, якія адбудуцца ўвесну. Першымі ўжо ў гэты ўік-энд прагаласуюць выбаршчыкі зямлі Саар. Па выніках галасавання, дарэчы, можа паўстаць першы ўрад у так званых «Заходніх землях», які сфармуюць эсдэкі і «Левыя». Такая метамарфоза (нагадаем, што партыя «Левыя» — нашчадкі камуністаў ГДР) здольная моцна падкарэктаваць працэсы выбарчай гонкі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Нікалас Мадура

Кіраўнік Венесуэлы абвясціў вайну кексам, тортам і круасанам. На яго думку, кандытары не маюць права ў такі цяжкі для краіны час выпякаць піроржныя і круасаны замест народнага хлеба. Такім чынам гэтыя «буржуі-фашысты» (яшчэ адно вызначэнне Мадуры) павышаюць свае прыбыткі і адначасова пазбаўляюць простых венесуэльцаў танных булак па гарантаваных дзяржавай цэнах.

Прычым Мадура настроены вельмі рашуча. У сталіцы Венесуэлы Каракасе ўжо пачаліся арышты кандытараў. У прыватнасці, у турму трапілі двое булачнікаў за тое, што замест хлеба яны выпякалі кексы. Дзейнасць іх устаноў прыпыненая.

Вайна хлеба супраць круасанаў выглядае сапраўднай карыкатурай, але гэта адна з праяў рэальнай класавай барацьбы, якая цяпер раздзірае Венесуэлу. Мадура клапоціцца пра тое, каб забяспечыць небагатае насельніцтва — базавы электарат чавістаў — таннымі прадуктамі. Іншая справа, што папулярнасць Мадуры, якога венесуэльцы лічаць асабіста адказным за жахлівую інфляцыю і дэфіцыт, падае з кожным днём. Супраць яго выступаюць нават многія паплечнікі па сацыялістычнай партыі. Але ў той жа час зніжаецца і папулярнасць правай апазіцыі.



### Георгій Раманаў

Нашчадак дома Раманавых па лініі сваёй маці, які прызнаецца часткай манархістаў галоўным прэтэндэнтам на карону імператара Расійскай імперыі, і пра якога яшчэ ўчора ніхто не ведаў, раптам стаў публічнай фігурай. Усё дзякуючы таму, што на фоне стогадовага юбілею Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі на самым высокім узроўні загаварылі пра неабходнасць аднаўлення манархіі. І тут нечакана высвятляецца, што самыя вялікія шанцы на карону мае нікому не вядомы Георгій.

Здавалася б, усё манархісты павінны былі б толькі радавацца наяўнасці цэсарэвіча, які можа працягнуць традыцыю Мікалая ІІ. Аднак у сацыяльных сетках, наадварот, пануе абурэнне наконт ідэі магчымага абвяшчэння Георгія царом. Крытыка гучыць не толькі з боку левага флангу, але і з боку патрыётаў, і нават большасці манархістаў. Пры ўсім адрозненні поглядаў, і чырвоныя, і белыя сыходзяцца ў адным — такі цар рускім не патрэбны.

Перш за ўсё, не падабаецца тыпова буржуазная біяграфія Георгія, які нарадзіўся ў Іспаніі, а пасля заканчэння Оксфарду працаваў дарадчыкам у структурах Еўрасаюза.

Уся трагікамедыя відавочна сведчыць, што расіяне на самай справе не гатовыя да рэстаўрацыі імперыі. Фігура манарха ў масах успрымаецца як нешта сакральнае і метафізічнае.



### Мішэль Бачэлет

Кіраўніца Чылі прапанавала план, які, на яе думку, можа вырашыць вельмі актуальнае для краіны індзейскае пытанне. Яно абвастраецца на працягу апошніх 30 гадоў, калі больш правоў патрабуе для сябе індзейская камуна Мапучэ. Акрамя таго, што Мапучэ лічацца ў Чылі людзьмі другога гатунку, іх землі захопленыя белымі чылійцамі.

Канфрантацыя настолькі абвастрылася, што некаторыя актывісты руху Мапучэ спрабуюць змагацца з Санцьяга тэрарыстычнымі сродкамі. Толькі ў мінулым годзе было зарэгістравана 227 актаў гвалту на гэтай глебе. Паколькі любімым прыёмам барацьбы за зямлю ў індзейцаў лічацца падпалы фермаў белаксурых, існуе версія, што нядаўнія гіганцкія пажары, якія знішчылі 3000 квадратных кіламетраў лясоў у краіне, былі іх справай.

На думку Бачэлет, канфлікт можна вырашыць, калі Мапучэ прымуць прапанаваны ёй план. Тады чырванаскурыя атрымаюць квоту ў парламенце (сёння Мапучэ, якія складаюць 10 працэнтаў выбаршчыкаў Чылі, прадстаўленыя толькі дзвюма дэпутатамі са 120 парламентарыяў). Акрамя таго будзе створаная камісія, якая зоймецца пошукамі рашэння зямельнага пытання і праграмай адукацыі для індзейцаў.

Аднак у плана хапае і ворагаў. Напрыклад, дырэктар чылійскага МУС патрабаваў спачатку пакараць актывістаў Мапучэ, якія былі датычныя да тэрактаў. Не выказвае захаплення ад плану Бачэлет і частка індзейцаў. Яны мяркуюць, што грамада павінна патрабаваць вяртання індзейцам усіх земляў, на якіх будзе заснаваная нацыянальная аўтаномія пад назвай Wallmapu.

# Сажычы: адна кроў, розныя лёсы

Алесь КІРКЕВІЧ

**Язэп Сажыч вядомы ў беларускім руху як камбатант часоў Другой сусветнай вайны ды старшыня Рады БНР з 1982 па 1997 гады. Мала хто ведае пра іншага Сажыча — Міколу: НКУСаўца, які спецыялізаваўся на «рэлігійным пытанні» і працаваў у Сіблагу.**

Некалькі гадоў таму ў асяроддзі калекцыянераў, якія цікавяцца савецкай уніформай, усплыў архіў фота супрацоўнікаў ДПУ ды НКУС 1920–1930-х гадоў. Як аказалася, належаў ён аднаму чалавеку. Прозвішча, прапісанае на фота сінім атрамантам, — «Сажыч». У беларускай гісторыі ўжо быў адзін Сажыч, але звязаны з зусім іншымі коламі...

## Ваяр, лекар, старшыня БНР

Памерлы ўсяго 10 гадоў таму, Язэп Сажыч стаў сапраўднай легендай беларускай эміграцыі. Скончыў беларускую гімназію ў Наваградку, у 1939-м цяжка паранены падчас нямецка-польскай вайны, пазней быў палон, вызваленне, вяртанне ў Беларусь. У занятай немцамі краіне Сажыч дзейнічаў метадамі ўкраінскіх нацыяналістаў, з якімі паспеў пазнаёміцца цягам пражывання ў Львове (кажуць, меў кантакты з АУН): увайшоў у нямецкую адміністрацыю, каб даць беларусам у рукі зброю.


Язэп Сажыч

Так, у 1943 годзе на загад Франца Кушаля Сажыч арганізаваў Беларускі батальён чыгуначнай аховы, пазней выкладаў у падафіцэрскай школе ў Мінску, ад 1944-га — у Беларускай краёвай абароне. Сажыч адступіў разам з нямецкімі войскамі, ды яшчэ паспеў паўдзельнічаць у падрыхтоўцы «дальвіцкага дэсанту», сфармаванага з беларусаў, каб весці дыверсійную дзейнасць у СССР.

Паралельна, Язэп з'яўляўся чальцом законспіраванай Беларускай незалежніцкай партыі, якая аб'ядноўвала нацыяналістаў і ўваходзіла ў нямецкія структуры, каб у слушны час падняць паўстанне. Але лёс склаўся па-іншаму. Вайна была скончаная, Сажыч перабраўся ў амерыканскую зону акупацыі, ажаніўся, атрымаў дыплом лекара, а праз 5 гадоў пераехаў у ЗША.

У Злучаных Штатах Сажыч займаўся медыцынай (спецыяльнасць — анестэзіёлаг), адначасна актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці беларускай дыяспары, стварыў ветэранскія арганізацыі. Пік ягонай дзейнасці на эміграцыі — старшынства ў Радзе БНР з 1982 па 1997 гады. У 1990-я ён яшчэ паспеў наведаць Радзіму, нават пабачыўся з былымі саслужыўцамі, напрыклад, жаўнерам батальёна Рагулі Яўгенам Усюкевічам з Наваградка. Спачыў Язэп Сымонавіч у 2007-м, пахаваны на беларускіх могілках у Мічыгане.

## Вайна з «гітлераўцамі» ды «фашыстамі»... у Сібіры

Вернемся ж да фотаархіву, пра які гаворка ішла на пачатку артыкула. Яго ўладальнік — Мікалай Сажыч, беларус, ураджэнец в.Нягневічы Навагрудскага раёну. Сваю вайсковую кар'еру гэты Сажыч пачаў яшчэ ў часы Расійскай імперыі ў мясцовых (лічы, унутраных) войсках, у абавязкі якіх уваходзіла ў тым ліку канвойная служба, суправаджэнне казённага транспарту ды арыштантаў.


Штаб ГПУ, Канск, 1922 год (Мікалай Сажыч — скрайні справа)

Пасля рэвалюцыі Мікалай далучыўся да бальшавікоў і ўжо на пачатку 1920-х служыў у ДПУ г.Канска, у 1930-м — у Ачынску Краснаярскай вобласці. У 1934-м Сажыч на пасадзе ўпаўнаважанага Омскага аперсектара НКУС расследаваў сітуацыю ў паселішчах менанітаў Нямецкага раёна Заходне-Сібірскага краю. Меніты, як вядома, былі галінай пратэстантаў, а самі носьбіты рэлігіі — немцы — здаўна перасяляліся ў глухія раёны Расіі, каб працаваць ды ціха спавядаць сваю веру. Але часы надышлі іншыя. Якая тут ціша, вера і што наогул робяць немцы ў самым тылу Савецкай дзяржавы?..


Мікалай Сажыч у сямейным коле, Марыінск, 1936 год

Карная аперацыя супраць менанітаў ішла па двух напрамках. Па-першае, супраць «сабатажнікаў хлебанарыхтовак», па-другое — супраць атрымальнікаў «гітлераўскай дапамогі» з-за мяжы (так трактавалася звычайная практыка гуманітарнай дапамогі ды падарункі на Каляды). Усе абвінавачаныя былі аб'яднаныя ў т.зв. «контррэвалюцыйныя фашыстоўскія групоўкі», паводле вызначэння адмыслова прысланых сюды загадам 15 лістапада 1934 года аператыўных брыгадаў НКУС. Асабліва дасталася «актывістам эміграцкага руху» — менанітам, якія агітавалі за вяртанне ў Германію.

## Нафта — партыя — атэізм!

На верасень 1936-га, пасля расправы з менанітамі, Сажыч з сям'ёй ужо пражываў у Марыінску Новасібірскай вобласці. На новым месцы ягоная праца была звязаная з «працоўнай калоніяй №1», якая ўваходзіла ў велізарны комплекс Сіблагу. Чым Сажыч займаўся падчас вайны, дакладна не вядома, але ў ліпені 1944 года ён ужо займаў пасаду парторга Новасібірскага абласнога ўпраўлення «Главнефтеснаба» пры СНК СССР. Так, грашова-нафтавы профіль у лёсе Сажыча перакрыжоўваецца з ідэалагічным.


Яўген Усюкевіч і Язэп Сажыч, Наваградак, 1990-я гады

У 1950-х гадах Сажыч зноў вярнуўся да свайго ўлюбёнага профілю: рэлігійнага. Ён працаваў упаўнаважаным па справе рэлігіі пры Савеце Міністраў СССР па Томскай вобласці. Гэта — пік ягонай кар'еры. Цікава пры гэтым, што нават пасля развянчання культу асобы Сталіна, падчас «хрушчоўскай адлігі», Сажыч застаецца зацятым змагаром з верай і любым іншадумствам.

Напрыклад, у 1956 годзе ў Томскі аблвыканкам паступаюць прашэнні ад грамадзянаў з просьбай дазволіць арганізаваць «каталіцкую рэлігійную грамаду» — парафію. Адказ Сажыча фармальны і цынічны: «У хадайніцтве групе вернікаў (...) адмовіць, бо грамада не мае малітоўнага будынку, а памяшканне былога касцёлу, на якое спасылаюцца заяўнікі, пераабарудавана пад аэраклуб і выкарыстоўваецца ў навучальных мэтах».

На жаль, гэта апошнія паводле храналогіі звесткі пра Мікалая Сажыча, якія атрымалася адшукаць. Ягоны далейшы лёс, як і лёсы жонкі і дзяцей, пакуль не вядомыя. Зрэшты, ёсць верагоднасць, што нехта з іх пасля вярнуўся ў Беларусь: здымкі былі знойдзеныя тут, а надпісы на адвароце не сведчаць, што яны дасылаліся камусьці поштай — гэта, найхутчэй, вузкасямейны архіў.

## Стрыечныя браты?..

Дзіўныя шляхі твае, Божа... Абодва Сажычы абралі ў жыцці падобны шлях вайсковай службы: Язэп супрацоўнічаў з нямецкімі спецслужбамі, Мікалай — з ДПУ-НКУС. Язэп працаваў з немцамі, Мікалай верхаводзіў карнымі экспедыцыямі супраць немцаў у далёкай Сібіры. Сын Язэпа стаў пратэстанцкім місіянерам, Мікалай — усё жыццё змагаўся з хрысціянствам агулам і пратэстантамі ў прыватнасці.

Ці былі Сажычы сваякамі? Канчатковы адказ на гэта дадуць толькі руплівыя генеалагічныя даследаванні, але фактаў «за» ўжо нямала. Яны абодва паходзілі з Нягневічаў на Навагрудчыне. За версіяю пра сваяцтва сведчаць і ўспаміны Язэпа: «Род мой паходзіць з Нягневічаў, пад Шчорсамі. Дзед Тамаш праслужыў у маскалях 25 гадоў, у войску, калі іх адпусцілі, ім далі па нейкіх дзьве дзесяціны зямлі каля Навагрудку. Яны пабудавалі пасёлак. Наша вёсачка была не батрацкая, а як бы каленія».

Такім чынам, атрымаўшы зямлю пасля рэкрутчыны, Тамаш Сажыч асеў на новым для сябе месцы, дзе дагэтуль магло не быць людзей з падобным прозвішчам. Адназначна, гэта не той выпадак, калі палова вёскі носіць тое самае прозвішча і з'яўляецца далёкімі сваякамі. «Пасёлак», пра які піша Язэп, найхутчэй знаходзіўся наўпрост непадалёк Нягневічаў, але фармальна да іх адносіўся. То бок, Язэп і Мікалай Сажычы маглі быць стрыечнымі братамі, маючы агульнага дзеда — Тамаша.

Калі прыгледзецца да фотаздымкаў Язэпа і Мікалая, зноў жа, цяжка не заўважыць падабенства. Выцягнуты твар, высокі лоб, злёгку прыжмураныя невялікія вочы, вельмі выразны доўгі і тонкі нос... Занадта шмат супадзенняў у гэтай гісторыі.

## Эпілог

Адкрытым, зноў жа, застаецца і пытанне, ці ведалі Сажычы пра існаванне адно аднаго? У абодвух выпадках, інфармацыя пра сваяка на супрацьлеглым баку барыкадаў магла скончыцца фатальна. Магчыма, немцы не ведалі нічога пра сваякоў Язэпа, які ствараў вайсковыя адзінкі і выкладаў у афіцэрскіх школах — то бок ужо падчас вайны быў адказнай фігурай. Але ці маглі не ведаць пра «аднафамільца» свайго саслужыўца супрацоўнікі КДБ, што дэталёва вывучалі склад «калабаранцкіх» фармаванняў, якія ваявалі супраць СССР?.. Пытанняў багата.

У любым выпадку, лёсы службоўцаў, якія зрабілі кар'еру па розныя бакі барыкадаў, цікавыя і паказальныя для нашчадкаў. Яшчэ адна разарваная сям'я, яшчэ адзін прыклад разарванага менталітэту нашага народу, сыны якога ў ХХ стагоддзі так часта насілі форму і баранілі чужыя інтарэсы. Добра, каб у наш час, калі беларусы маюць сваю нацыянальную дзяржаву, падобнае не паўтарылася зноў.

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Прайшло ўжо 25 гадоў, як беларускія слухачы ўпершыню пазнаёміліся з гуртом «Палац», з іх экспрэсіўнымі апрацоўкамі фальклору, упадабалі іх сучаснае гучанне. Музыканты «Палаца» ўсе гады радавалі слухачоў новымі песнямі, альбомамі, відэакліпамі, а слухачы дзівіліся энергіі лідара гурта Алега Хаменкі, які выступаў як кампазітар, аранжыроўшчык, спявак, тэлевядучы... Нават цяпер, калі Алег Хаменка адзначае сваё пяцідзесяцігоддзе, ягоныя творчыя планы звязаны з гуртом «Палац». А гэта добрая падстава нагадаць некалькі фактаў з гісторыі калектыву і яго лідара.**




# Made in Belarus,

## альбо Топ вядомых і малавядомых фактаў з біяграфіі гурта «Палац»




• Гурт «Палац» быў утвораны ў 1992 годзе ўдзельнікамі аматарскага калектыву «Дворец кукурузных палочек» — выпускнікоў і студэнтаў БДІКМ. Касцяк гурта складалі клавішнік і аранжыроўшчык Юрась Выдронак, вакаліст і гітарыст Алег Хаменка (а з 1998 года — лідар і мастацкі кіраўнік гурта), трубач і вакаліст Юрась Белякоў, акардэаніст, лірнік і вакаліст Зміцер Карабач. Першы канцэрт гурта пад назвай «Палац» адбыўся чэрвені 1992 падчас святкавання Купалля на Камсамольскім возеры ў Мінску. У гэтым жа годзе да «Палаца» далучыўся Зміцер Вайцюшкевіч (сышоў з «Палаца» ў 1998 годзе), які граў у гурце на флейце, кларнеце, жалейцы, на дудзе.

• Гурт не раз быў уганараваны рок-каронамі на «Рок-каранацыі»: у намінацыі «Традыцыі і сучаснасць» (атрымоўвалі іх у 1994, 1995, 1996 гадах), за «Кліп году» («На турэцкіх палях», 2001). «Палац» — сталы ўдзельнік фэсту «Басовішча» ад 1992 года. Адным з першых гурт Алега Хаменкі рэпрэзентаваў незалежную беларускамоўную фолк-рок-сцэну на дзяржаўных фэстах «Маладзечна–93» (разам з «Крамай» і «Мрояй», «Ulis»), музыканты выступалі на гэтым фестывалі ў 1994, 1995, 1998 гадах. Гурт «Палац» удзельнічаў у праграме «Славянскага базару», фестывалі духоўнай музыкі «Магутны Божа».

• «Палац» паспяхова ўдзельнічаў у міжнародных конкурсах і фэстах: прадстаўляў сучасную беларускую музыку на міжнародных фэстах: «Tanz und folkfest» Еўрапейскага вяшчальнага саюзу (EBU), (Рудальштат, Германія, 1994), «Країна Мрий» (Украіна), «Siklegos» (Літва) і іншых. А ў 1993 годзе гурт з песняй «Русалкі» стаў лаўрэатам III прэміі конкурсу «Discovery–93», арганізаванага радыё «France Internacional» (Парыж, Францыя). Удзельнічаў у Міжнародным фестывалі «Азія даусы» («Галасы Азіі»), які прайшоў у Алматы (Казахстан) у 1995 годзе. Трансляцыя канцэрта адбывалася на больш чым мільярдную аўдыторыю азіяцкага рэгіёна.

• У 2003 годзе гурт прадстаўляў сучасную беларускую музыку ў рамках Дзён беларускай культуры ў Францыі, у горадзе Клермонд-Феран. Для французскіх слухачоў беларускія музыканты выканалі кампазіцыі з альбома «Чужыя дзеўкі». У час гэтай гастрольнай паездкі «Палац» меў паспяховы сумесны канцэрт з французскім фолк-рок-калектывам «Lasaro».

• У творчым багажы гурта «Палац» восем музычных альбомаў (з іх 6 нумарных і 2 альбомы-праекты), а таксама ўдзел у 7 тэматычных складанках з песнямі беларускіх гуртоў і трыб'ютах. Трэкі гурта «Палац» прадстаўлены на шматлікіх міжнародных фанаграфічных праектах: на дысках «Нашествие. Шаг второй» (Расія, 1999), «Belarusian Red Book. Music of Belarus» (Германія, 2006), «БУ-Меранг» (Расія, 2004) і іншых.

• Песні і апрацоўкі гурта «Палац» і яго лідар Алега Хаменкі не раз былі ў цэнтры ўвагі беларускіх тэле- і кінематаграфістаў. Так, у 1997 годзе на студыі «Белвідэацэнтр» быў зняты аднайменны фільм (рэжысёр Ю.Ялхоў), у якім была адлюстравана гісторыя калектыву. Той жа рэжысёр запрасіў гурт для ўдзелу ў здымках і запісе галоўнай песні да мастацкай стужкі «Анастасія Слуцкая» («Беларусьфільм», 2003). Па словах Алега Хаменкі — аўтара кампазіцыі «А ў лузі...», якая гучыць у фільме, рэжысёр паставіў музыкантам задачу стварыць блізкі да аўтэнтычнага музычны і гукавы «адбітак» той эпохі, якая адлюстравана ў стужцы, XV — пачатку XVI стагоддзя.

• Некалькі гадоў гурт «Палац» працаваў над рэалізацыяй маштабнага музычна-драматычнага праекту — фолк-рок-мюзіклу «Возера». У аснове сюжэту гэтага твора музыканты ўзялі старажытную беларускую легенду пра два народы, якія жылі ля возера Асвея. Выконваць ролі ў ім згадзіліся многія беларускія акцёры кіно і тэатру, рок-выканаўцы. З-за вялікіх фінансавых выдаткаў праца над фолк-рок-мюзіклам «Возера» часова перапынена.

• Гітарыст Сяржук Трухановіч, які далучыўся да гурта «Палац» у 2003 годзе, з'яўляецца і штатным гітарыстам гурта «Крама». Па словах Сержука, праца з гэтым камандамі дае яму магчымасць зрабіць свой выканаўчы почырк больш выразна беларускім. «Праца ў «Краме» дае мне рок-н-рольны зарад... Праца ў «Палацы» натхняе на пошук новых мелодый, блізкіх да беларускага фальклору, прымушае задумацца пра структуру мелодыкі беларускіх народных песень. Яна ратуе мяне ад зацыклівання на адным нейкім стылі», — адзначае Сяржук Трухановіч.

• Паралельна з абавязкамі лідара гурта, Алег Хаменка з'яўляецца заснавальнікам фэсту «Bela Music» (2009), вядучым беларускіх фолк-фэстаў, шоў і канцэртаў («Камяніца»). Акрамя працы ў гурце, музыкант не раз выступаў у ролі радыё- і тэле-артыста. Так, з 2003 па 2004 год Алег Хаменка быў вядучым адукацыйнай тэлеперадачы «Настаўніцкая» на тэлеканале «Лад». Шмат гадоў А. Хаменка стварае аўтарскую праграму «Фолк-брама», якая налічвае ўжо больш чым 500 аўтарскіх перадач на «Радыё Рацыя».

• У дыскаграфіі гурта «Палац» ёсць не толькі музычныя дыскі, але і казкі. Напрыклад, гурт запісаў і выдаў дыск «Салдат-доктар» паводле беларускай народнай казкі. Тэма папулярызацыі народнай творчасці Алегам Хаменкам была працягнутая праектам «Беларускія народныя казкі», які складаўся з 10 дыскаў (8 выйшлі на CD, 2 — выкладзены ў інтэрнэце). На падставе казак з гэтага праекту (некаторыя з іх А. Хаменка збіраў і запісаў сам), дзіцячы фонд ЮНІСЭФ выдаў маляўнічую кнігу з аўдыё-дадаткам, які атрымалі ў падарунак усе дзяржаўныя бібліятэкі Беларусі.

• Па выніках хіт-параду «Топ 100» парталу «Тузін гітоў» дзве кампазіцыі гурта «Палац» названыя «лепшымі беларускімі песнямі». Адна з іх — «Кола грукатала» ў аднўленай аранжыроўцы была прадстаўлена музыкантамі на нацыянальным адборачным туры да «Еўрабачання–2008» і стала першай беларускамоўнай кампазіцыяй, якая трапіла ў фінал «ЕўраФэста–2007». На гэтую кампазіцыю быў зняты відэакліп (рэжысёр Анатоль Вечар). Другі «лепшы» хіт ад «Палаца» — вясельная песня «Канюшня» — адзін з самых любімых беларускіх фолк-рокхітоў, на які робяць каверы. Напрыклад, гурты «:B:N», «Мантана» ды іншыя.

• Адной з «лепшых беларускіх песень» прызнана і кампазіцыя гурта «Крама» «Гомельскі вальс» (музыка І.Варашкевіча, словы З.Лукашука), у стварэнні і запісе якой удзельнічаў гурт «Палаца» і яго лідар.

• Музыканты гурта «Палац» у 2010 годзе запісалі на замову кіраўніцтва каманды беларускамоўны гімн хакейнага клубу «Дынама–Мінск». Тэкст для яго стварыў беларускі бард і паэт Алесь Камоцкі. Першае выкананне гімна адбылося ў тым жа годзе перад прэзентацыяй новага іміджу мінскага «Дынама». Гімн кіраўніцтву і гульцам клубу спадабаўся сваім нацыянальным каларытам, і ён выконваецца перад кожнай гульнёй клубу «Дынама–Мінск».

• Тэрмін мадэрн-фолк (Modern Folk, «сучасны народны»), які лічыцца мастацкім напрамкам, Алег Хаменка прапанаваў разглядаць і як музычны стыль «фолк-мадэрн» у дачыненні да «Палаца». Сёння апрацоўкі фальклору ў сучасных аранжыроўках не толькі ў Беларусі, але і ў многіх краінах Усходняй Еўропы атаясамліваецца са стылем фолк-мадэрн (Folk Modern), «як з магістральным напрамкам у развіцці пост-фолк-року».

*Віншаванні гурт «Палац» зможа прыняць на юбілейным сольным канцэрце 4 красавіка, які адбудзецца ў рэстаране-бровары «Сябры» (вуліца Кульман, 40).*

## ЦЯПЕР У ШАПІКАХ І КРАМАХ

# Шаноўныя чытачы!

**Паведамляем вам, што жыхары Мінска і Мінскай вобласці нарэшце змогуць набываць «Новы Час» у шапіках і крамах РУП «Белсаюздрук».**

Ужо 8 красавіка шукайце «Новы Час» у шапіку побач з вашым домам.

Кіраўніцтва «Белсаюздруку» абяцае, што газеты паступяць ва ўсе гандлёвыя кропкі. Таму мы заклікаем нашых чытачоў спраўджваць гэту інфармацыю і паведамляць у рэдакцыю пра адсутнасць газеты ў продажы. Тэлефануйце +37529 6255751.

Жыхары ва ўсіх рэгіёнах нашай краіны хутка змогуць падпісацца на «Новы Час» на другое паўгоддзе праз каталог РУП «Белпошта». Падпісны індэкс і ўмовы падпіскі мы паведамім дадаткова.

Рэдакцыя «Новага Часу» вельмі спадзяецца на вашу шчырую падтрымку! Менавіта ваша падтрымка дазволіць газеце выжыць у сённяшніх складаных умовах і яшчэ не адзін год радаваць вас цікавымі матэрыяламі.

## Дзякуй вам, нашы адданыя і самыя лепшыя чытачы!

Газету таксама можна атрымаць **у нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:** Магілёў — (8 029) 722 61 69, Міхась; Гомель — (8 029) 697 82 75, Аляксандр.

Можна атрымліваць газету **і ў паштовыя скрыні.** Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацежнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо проста патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць ваш адрас (+375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код 739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. УНП 190790926

## Абвешчаныя вынікі прэміі «Дэбют»

**Цырымонія ўзнагароджання адбылася 21 сакавіка ў ЦЭХу.**

Лаўрэатамі прэміі «Дэбют» 2017 года сталі Міхал Бараноўскі са зборнікам паэзіі «VOLUMEN 1», Андрусь Горват з кнігай прозы «Радзіва «Прудок». Дзённік» і Адэля Дубавец з перакладам з польскай мовы кнігі Вітальда Шаблоўскага «Танец мядзведзяў». Яны атрымалі ад фонду "Вяртанне" па 3900 беларускіх рублёў.

Астатнія фіналісты атрымалі заахвочвальныя прызы ў памеры 1000 беларускіх рублёў. У намінацыі «Паэзія» — гэта Аляксей Арцёмаў з кнігай «Скрозь кіламетры» і Ганна Комар з кнігай «Страх вышыні», у намінацыі «Проза» — Андрэй Дзічэнка з кнігай «Сонечны чалавек» і Уладзімір Садоўскі з кнігай «1813», у намінацыі «Пераклад» — Надзея Кім з перакладам кнігі Клайва Стэйплза Льюіса «Хронікі Нарніі: пляменнік чараўніка» і Сюзанна Паўкштэла з перакладам кнігі Альвідаса Шляпікаса «Бог дажджу».Літаратурная прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча заснаваная ў 2010 годзе Беларускім ПЭН-цэнтрам, Дабрачынным фондам «Вяртанне» і Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Уручаецца за дэбютную кнігу аўтарам да 35 гадоў за творы ў жанрах, у якіх працаваў Максім Багдановіч: паэзія, проза, мастацкі пераклад.

# «Глядзіце ў будучыню СМЕЛА!»

**Прысвячаецца Дню Волі, 25 сакавіка**

**Па гарызанталі:** 1. Дзе адзін працуе, там ... гаруе (прык.). 8. «Дваццаць пятага сакавіка —\\ Наша свята,\\ Пароль і ...». З верша Р. Барадуліна «25 сакавіка...». 9. ... слова песні не робіць (прык.). 10. Упэўненасць у чым-небудзь. 11. Герб ВКЛ у часы княжання Вітаўта Вялікага (1392–1430 гг.), дзяржаўны герб БНР (1918–1919 гг.) і Рэспублікі Беларусь (1991–1995 гг.). 12. «... — люстэрка людскога жыцця і душэўныя лекі, уцеха — самотным, знявераным — помач, асабліва тым, каго немач точыць і верад рушыць». Ф.Скарына. 13. Расійскі горад, абласны цэнтр. 14. «Мой бел-чырвона-белы ... —\\ зямлі мае краса і слава!». З верша А.Салаўя «Трыялет». 17. У егіпецкай міфалогіі бог урадлівасці ў абліччы быка. 19. Шчыпковы музычны інструмент. 20. Прыжыццёвы зборнік вершаў М.Багдановіча, які быў выдадзены ў 1914 годзе ў Вільні ў друкарні М.Кухты. 21. «Курапаты — ... смерці». Артыкул З.Пазняка і Я.Шмыгалёва, які быў надрукаваны ў газеце «ЛіМ» у чэрвені 1988 года. 23. Прадмет старажытнай ручной зброі. 24. Смех — лепшыя ... (прык.). 25. Еўрапейская краіна, якая адна з першых прызнала Беларускую Народную Рэспубліку (БНР). 26. «Глядзіце ў будучыню смела!\\ Настаў доўгачаканы ...,\\ Пад сцягам бел-чырвона-белым\\ Чакае перамога нас». З верша М.Танка «Ты чуеш, брат?».

**Па вертыкалі:** 2. Уладзімір ... Прозвішча беларускага кампазітара, дырыжора, аўтара музыкі песні «Купалінка» і гімна БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (словы М.Краўцова). 3. Пляцоўка для спаборніцтваў па боксу. 4. Дзіцяня авечкі. 5. Горад, былая сталіца Літвы, куды ў лістападзе 1920 года пераехала Рада народных міністраў БНР. 6. «Чаму вам дзіка яго ...? \\ Паверце, вашай ён не ўкраў, \\ Сваё ён толькі ўспомніў слова». З верша Я.Купалы «Ворагам беларушчыны». 7. «... без незалежнасці, што банкаўскі кошт без укладу». А.Васільеў. 15. Артыстка цырку. 16. 3-я Устаўная ... Афіцыйны дакумент, прыняты ўрадам БНР 25 сакавіка 1918 года; з гэтага часу Беларусь абвяшчалася незалежнай, свабоднай дзяржавай. 18. Аркадзь ... Прозвішча прафесара, беларускага вучонага ў галіне геаграфіі, эканомікі, сельскай гаспадаркі, аднаго з ініцыятараў абвяшчэння БНР. Быў арыштаваны і расстраляны як «вораг народа». Рэабілітаваны. 20. «Што такое ..., ведаюць толькі тыя, хто гатовы памерці за яе». Г.Сталь. 21. Верхняя і ніжняя дошкі струннага музычнага інструмента. 22. Канцылярыя, кантора.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**




## Стыпендыя імя Магдалены Радзівіл

**Саюз беларускіх пісьменнікаў абвяшчае пра заснаванне стыпендыі імя Магдалены Радзівіл для пісьменніц і перакладчыц і называе імёны стыпендыятак.**

Стыпендыя прызначаная на творчую працу і будзе ўручацца раз на год. Узрост аўтарак, намінаваных на яе, не абмяжоўваецца.




Спіс кандыдатак і імёны пераможцаў абіраюцца Радай стыпендыі, у склад якой уваходзяць: Святлана Алексіевіч (старшыня Рады), Уладзімір Арлоў, Алена Макоўская, Барыс Пятровіч (Сачанка), Юлія Чарняўская.

Сёлетнімі стыпендыяткамі сталі: Тацяна Барысік (Магілёў), Алена Брава (Барысаў), Дар'я Ліс (Смаргонь).

Шчыра віншуем!

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 282

Падпісана да друку 24.03.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.